Авяр'ян

# ДЗЕРУЖЫНСКІ



# Бярозавы вецер

Лірыка і гумар

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1990

ББК 84Бел7
Д 43

Прадмова
У. ГНІЛАМЕДАВА

Новая книга поэта состоит из трех разделов, куда вошли песни, стихи, а также юмористические и сатирические произведения. Здесь и задушевная лирика, и злободневные гражданские мотивы, и гневный смех, который вскрывает застойные явления и стереотипное мышление на пути революционной перестройки нашей жизни.

Д $\frac{4702120202-096}{М\ 302(03)-90}$ 48—90

ISBN 5-340-00460-0



## ПЕСНЯ — АБАЛОНКА ДУШЫ

Гэтыя песенныя радкі Авяр'яна Дзеружынскага вядомы, думаю, кожнаму жыхару нашай рэспублікі ды і далёка за яе межамі:

Ой, мяцеліца,
Ой, мяцеліца
Ўсе дарожкі замяла,
Як мне, дзеўчыне,
Як мне, дзеўчыне,
Ехаць з любым да сяла?

Я сняжыначкі,
Я сняжыначкі
Сваім сэрцам растаплю,
Ведай, міленькі,
Ведай, міленькі,
Цябе моцна я люблю...

Славутая «Мяцеліца»!

Калі яна была напісана? У нялёгкія гады — недзе адразу пасля вайны. Здавалася б, калі спяваць, дык пра нешта іншае — іншых песень вымагаў той час. Але не! Людзям патрэбна была «Мяцеліца». Бурная, імклівая, вясёлая, да краёў напоўненая і перапоўненая пачуццямі. Стварыць песню дапамог кампазітар М. Шумілін, якога цяпер ужо няма сярод нас, а песня жыве, палоніць чалавечыя сэрцы, дорыць людзям радасць.

Твор зайздроснага лёсу не перастае нагадваць нам пра гады маладосці, раніцу жыцця, акрыленага рамантычнымі марамі і спадзяваннямі.

А між тым верш сам па сабе надзіва просты, немудрагелісты, звычайны! Ёсць у ім, відаць, нешта спрадвечнае, што закранае глыбокі свет народнай душы, будзіць дарагое, запаветнае.

Шырока вядомыя яго «Песня аб Мінску», «Дзявочая лірычная», «Залатыя каласы», «Песня пра Дняпро» і многія іншыя.

Песням А. Дзеружынскага горача апладзіруюць за мяжой.

З Кітая вярнуўся Акадэмічны народны хор БССР імя Г. Цітовіча. Мастацкі кіраўнік Міхаіл Дрынеўскі расказвае:

«— На паўмесяца мы ехалі ў Кітай. І, прызнацца, непакоіліся: як прымуць? Аказалася, білеты «на савецкую песню» былі распрададзены ўжо загадзя. Поўныя залы — на паўтары-дзве тысячы чалавек — бісіравалі кожны нумар. І не толькі папулярныя «Кацюшу» ці «Калінку», якія мы спявалі на кітайскай мове, а і нашы народныя песні: «Закаці, ясна сонейка», «Ой ты, грушка мая», «Закукуй, зязюленька». Але самы большы трыумф выпаў на долю славутай «Мяцеліцы» — песні Авяр'яна Дзеружынскага. Памятаеце: «Ой, мяцеліца, ой, мяцеліца ўсе дарожкі замяла. Як мне, дзеўчыне, як мне, дзеўчыне, ехаць з любым да сяла...» Публіка пажадала мець пераклад тэксту, і неўзабаве яго надрукаваў адзін кітайскі часопіс. Відэазапісы нашых канцэртаў, як нам паведамілі, з задавальненнем паўтараюць па мясцовым тэлебачанні» («Звязда», 1988, 17 красавіка).

У чым сакрэт іх папулярнасці?

У тым, вядома, што яны апяваюць прыгажосць роднай зямлі, яе цудоўных краявідаў, хараство чалавека-працаўніка, багацце яго душы, дабрату, шчырасць, высакароднасць людскіх узаемаадносін, сцвярджаюць чалавечнасць, гуманізм як духоўную норму нашага жыцця. Але, думаецца, не толькі ў гэтым, а і ў тым, што ідзе ад мастакоўскай індывідуальнасці самога аўтара. Лірычны герой, а часам і гераіня песень А. Дзеружынскага — людзі з чулым сэрцам і адкрытай душой, пяшчотныя і добразычлівыя, здольныя зразумець і раздзяліць чужую радасць і чужое гора.

У яго песнях свая паэтычная логіка, часам вельмі наіўная. Чаму? Таму што песня — гэта жыццё сэрца з уласцівым для яго багаццем эмацыянальных рухаў і адценняў. Своеасаблівы лірычны наіў у дадзеным выпадку — не слабасць паэта, а яго сіла, здольная ўздзейнічаць эстэтычна, хваляваць, прымушаць сапераўжываць.

Ты прыходзь, маё сэрца,
Ты мяне не забудзеш,
Каб з табой, маё сэрца,
Неразлучнай мне быць,
Ты прыходзь, маё сэрца,
Ласку, радасць абудзіш,
І на свеце абоім
Весялей будзе жыць.

Настолькі проста, што далей, як кажуць, няма куды. Вось паэт і бярэ гэтай прастатой і наівам. Каханую сваю яго лірычны герой параўноўвае з журавінкай, чайкай, сонейкам, чарэшняй, васільком.

Дзіўныя, неспазнаныя заканамернасці чалавечай псіхалогіі і светаўспрымання — пра гэта яшчэ раз нагадвае паэзія А. Дзеружынскага.

У яго значны жыццёвы вопыт. Нарадзіўся Авяр'ян Сафонавіч Дзеружынскі ў 1919 годзе на Магілёўшчыне ў вёсцы Хляўно, якая знаходзіцца на беразе блакітнага Сожа паміж Кармой і Слаўгарадам. Дзяцінства і юнацтва будучага паэта прайшло на вясковым улоні, сярод цудоўнай беларускай прыроды, якую ён палюбіў назаўжды. Скончыў мясцовую сямігодку, затым — газетны тэхнікум у Магілёве. Прага вучыцца, набіраць веды прывяла яго ў Мінскі Камуністычны інстытут журналістыкі. Дыплом журналіста атрымаў перад вайной, паспеў папрацаваць у розных газетах. Грымнула вайна. Дзеружынскі апынуўся ажно ў Сібіры. У Мінск вярнуўся ўжо пасля вызвалення. Тут і адкрыўся ў яго дар паэта-песенніка.

Радзілася я
Ў Беларусі,
Дзе ціхі,
Задумлівы бор,
Ляцяць сюды
З выраю гусі
Да сініх,
Цудоўных азёр.

Стаяць
Векавыя дубровы,
Даносіцца
Ласкавы шум,
І сонца
І ветрык вясновы
Цяплом
Саграваюць душу...

У такой манеры цяпер, здаецца, мала хто піша нават з паэтаў-песеннікаў. Наш аўтар знаходзіць неабходныя яму выяўленчыя і выразныя сродкі, каб узнавіць думкі і пачуцці чалавека, крануць тонкія струны душы.

Вядома, у вершах-песнях А. Дзеружынскага ад-

люстраваўся ідэальны бок жыцця. Ён добра ведае, што без ідэалу нельга жыць, бо ў ім сабраныя агульначалавечыя каштоўнасці народнага быцця і светаўспрымання.

Гарыць, гарыць, на небе зззяе
І свеціць зорачка мая,
Яна ў жыцці мне памагае —
Гэта з маленства знаю я...

Ёсць у А. Дзяржынскага і жартоўныя песні, і такія, якія не з'едліва, праўда, высмейваюць некаторыя чалавечыя недахопы — чэрствасць, неспагадлівасць, скупасць, эгаізм. Сёння песня — творчасць А. Дзержынскага — пад уплывам часу страчвае залішнюю заспакоенасць фарбаў, набывае новыя ідэйныя рысы:

Што ты нарабіў,
Што ты нарабіў
Сваёй, чалавек, рукою? —
І птушкам адбіў,
І птушкам адбіў
Ахвоту спяваць вясною...

Былы наіў тут прысутнічае, аднак ёсць значная доза і той гаркаты, якую спарадзіў наш век...

У песеннай творчасці А. Дзержынскага ёсць, вядома, і выдаткі — ды і якая творчасць без іх абыходзіцца?! Часам шкодзіць стылізацыя пад народную песню, пераймальнасць, імкненне да залішняй блізкасці. Ёсць вершы і халаднаватыя: «Манумент славы», «Невядомы партызан», «Шумлівае мора» і некаторыя іншыя. Часам ловіш сябе на думцы, што некаторым з іх не хапае ўнутранай канфліктнасці, змястоўнасці.

Ад выдаткаў трэба вызваляцца, тым больш што да яго творчасці заўсёды праяўлялі цікавасць беларускія кампазітары.

На словы Дзержынскага пісалі музыку многія вядомыя кампазітары розных пакаленняў — М. Чуркін, Я. Цікоцкі, М. Аладаў, П. Падкавыраў, У. Алоўнікаў, Д. Камінскі, Г. Вагнер, Л. Абеліёвіч, Э. Тырманд, Я. Глебаў, Ю. Семяняка, Д. Смольскі, К. Цесакоў, М. Коньшын, А. Грас, І. Мацін, М. Шумілін і інш. Асабліва цесныя і пастаянныя творчыя сувязі ў паэта былі з кампазітарам Іванам Кузняцовым.

Хай жыве гэта садружнасць муз, хай гучыць песня!

*Уладзімір ГНІЛАМЕДАЎ*



# 1

**Як вы любы сэрцу, песні,**
**З вамі клопат маю,**
**Загучыце ў паднябессі,**
**Нібы птушкі маю.**



## МЯЦЕЛІЦА

Ой, мяцеліца,
Ой, мяцеліца
Ўсе дарожкі замяла,
Як мне, дзеўчыне,
Як мне, дзеўчыне,
Ехаць з любым да сяла?

Я сняжыначкі,
Я сняжыначкі
Сваім сэрцам растаплю,
Ведай, міленькі,
Ведай, міленькі,
Цябе моцна я люблю.

Ой, мяцеліца,
Ой, мяцеліца
Адгуляла — і пайшла...
А вяселейка,
А вяселейка
Едзе з песняй да сяла.

## РАДЗІЛАСЯ Я
## Ў БЕЛАРУСІ

Радзілася я
Ў Беларусі,
Дзе ціхі,
Задумлівы бор.
Ляцяць сюды
З выраю гусі
Да сініх,
Цудоўных азёр.
Стаяць
Векавыя дубровы,
Даносіцца
Ласкавы шум,
І сонца
І ветрык вясновы
Цяплом
Саграваюць душу.
Гляджу,
Як заранка гуляе,
Над рэчкай
З вярбой зіхаціць,
І выказаць
Сэрца жадае:
Як хораша жыць
І любіць.
Радзілася я
Ў Беларусі,
Дзе срэбрам
Крыніцы звіняць,
Сюды
З крыкам радасным гусі
З далёкага поўдня
Ляцяць.

## Я ВЫЙДУ ЗА АКОЛІЦУ

Я выйду за аколіцу,
Пайду я, выйду ніваю,
Калыша
Вецер-вольніца
Пшаніцу гаманлівую.

Цвітуць
Лугі мурожныя,
Цвіце
Наўкол зямля,
І траўка шэпча кожная:
— Твая, твая.

І хвалі быстрацечныя
Ільюцца
Песняй звонкаю,
Туман плыве
Над рэчкаю,
Над роднаю старонкаю.

І статкі ходзяць
Пашаю,
Сады гамоняць
З ніваю.
Усё рукамі нашымі
Узрошчана руплівымі.

Цвітуць
Лугі мурожныя,
Цвіце
Наўкол зямля,
І траўка шэпча кожная:
— Твая, твая.

## ЗАЛАТЫЯ КАЛАСЫ

Нівы спелыя жаўцеюць,
А вакол шумяць лясы,
Гнуцца, хіляцца да долу
Залатыя каласы.

Ззяюць сонейка праменні
Ў срэбных кропельках расы,
І гамоняць між сабою
Залатыя каласы.

Погляд нельга адарваць свой
Ад чароўнае красы,
Калыхаюцца пад ветрам
Залатыя каласы.

І чуваць па-над палямі
Песень звонкіх галасы,
Нізка кланяюцца долу
Залатыя каласы.

## ЖУРАВІНКА

Хто ўстае раней зары
Ў Магілёве, Мазыры,
Хто за кветку прыгажэй,
І прывабней, і мілей?
    Журавінка, журавінка —
    Беларуская дзяўчынка.

Хто ўслаўляе працай край,
Што квітнее, нібы май,
Хто сама ёсць маладосць,
Наша радасць, весялосць?
    Журавінка, журавінка —
    Беларуская дзяўчынка.

Хто на танцах пойдзе ў круг —
Замірае хлопец-зух,
Хто пяе, як салавей,
Хто за кветку прыгажэй?
    Журавінка, журавінка —
    Беларуская дзяўчынка.

## ЗОРАЧКА МАЯ

Гарыць, гарыць, на небе ззяе
І свеціць зорачка мая,
Яна ў жыцці мне памагае,
З маленства знаю гэта я.

Мне гэта зорачка свяціла,
Калі ў акопах замярзаў,
Калі ў няволі быў нямілай,
З вачэй каціліся сляза.

І радасць зорачка ўсяляла,
Як я прыйшоў у родны дом
І маці поўны налівала
Салодкі кубак за сталом.

І ў вельмі сумныя гадзіны
Ў далёкіх і чужых краях
Мне свеціць зорачка Радзімы,
Мне свеціць зорачка мая.

## МАНУМЕНТ СЛАВЫ

Стаіць манумент
Там, дзе груды-руіны,
Высока і горда
Стаіць, як салдат.
І ззяннем
Узнятай
Да неба вяршыні
Заве да сябе
Маладых арлянят.

Тут кожную глыбу
І кожны тут камень
Свяшчэннай крывёю
Байцы палілі,
У сэрцах нашчадкаў
Жыць будзе
Вякамі
Пра тых успамін,
Што ў легенду ўвайшлі...

Народная памяць
Адважных запомніць —
Іх ворагі волю
Зламаць не змаглі,
Стаіць манумент —
Брэсцкай крэпасці
Помнік —
Героям вялікай
Савецкай зямлі!

## НЕВЯДОМЫ ПАРТЫЗАН

Ці за ляском,
За кручай над ракою,
Ці, можа, ў полі,
Дзе сівы курган,
Ляжыць засыпаны
Зямлёю роднай
Герой наш,
Невядомы партызан.

Сваю зямлю
Ён засланяў сабою
Ад злых, варожых
І смяртэльных куль.
Хто ён, грузін,
Ці рускі, ці ўкраінец,
Ці беларус,
І родам ён адкуль?

Сном вечным спіць ён
Ля Дняпра, ці Сожа,
Ці ў полі чыстым,
Дзе сівы курган,
Ляжыць на Беларусі
Невядомы
Герой адважны,
Слаўны партызан.

## РАСІЯ

Сонца з усходу,
Сонца з заходу,
Неба ў бязвоблачнай сіні,
Стэпы, раўніны,
Горы, даліны,
Край неабсяжны — Расія.

Моцна і цвёрда
З поглядам гордым
Вечна стаіш і стаяла,
Нашы народы
Ты назаўсёды
Ў круг свой братэрскі сабрала.

Сілы ні ў кога
Не пазычала,
Літасці ты не прасіла,
Хлеб свой апошні
З намі дзяліла
Маці ўсіх маці, Расія.

Вораг ніколі
Цябе не зняволіць,
Вораг не здолее асіліць,
Сонца ўзыходзіць
І не заходзіць
Па-над табою, Расія!

## ОЙ, ДНЯПРО

Ой, Дняпро,
Ой, рака быстраводная,
Ты цячэш
Між палёў
І лясоў,
І магутная ты
І свабодная,
Сваёй цешышся
Гордай красой.

Ой, Дняпро,
Ой, рака мнагаводная,
Сілы чэрпаеш
З рускай зямлі,
І любоў да цябе
Ўсенародную
Мы з мінулых
Вякоў
Зберaглі.

Ой, Дняпро,
Ой, рака,— шыр хвалюецца,
Па абодвух
Тваіх берагах
Гарады Беларусі
Красуюцца,
Тонуць вёскі
У зялёных
Садах.

Ой, Дняпро,
Ой, рака гаманлівая,

Цябе ведае добра
Ўвесь свет,
Дык цячы
На Ўкраіну шчаслівую,
Ёй нясі
З Беларусі прывет!

## ПЕСНЯ АБ МІНСКУ

Алеямі зялёнымі,
І ліпамі, і клёнамі,
І паркамі цяністымі
Ўпрыгожаны стаіш,
Ты рана прачынаешся,
І сонцам умываешся,
І ў будучыню з гордасцю,
Наш родны Мінск, глядзіш!

Куды ні глянь, на вуліцах
Растуць дамы, будуюцца,
Цябе, любімы горад наш,
Сягоння не пазнаць,
Пад воблакі ўздымаешся
І з кожным днём змяняешся,
Усюды маладосць твая
Кіпучая відаць.

Сталіца беларуская,
Ты адчуваеш рускую
Надзейную, ласкавую,
Братэрскую руку,
Агнямі будаўнічымі,
Заводскімі, фабрычнымі
Ярчэй ты не свяцілася
На ўсім сваім вяку.

Алеямі зялёнымі,
І ліпамі, і клёнамі,
І паркамі цяністымі
Ўпрыгожаны стаіш,

Ты рана прачынаешся,
І сонцам умываешся,
І ў будучыню з гордасцю,
Наш родны Мінск, глядзіш!

## ЧУЕ ЗЯМЛЯ

І чуе зямля,
І чуе зямля
Плач горкі змялелых рэчак,
А гэта твая,
А гэта твая,
Віна твая, чалавеча.

Што ты нарабіў,
Што ты нарабіў
Сваёй, чалавек, рукою? —
І птушкам адбіў,
І птушкам адбіў
Ахвоту співаць вясною.

І чуе зямля,
І чуе зямля,
Што ёй наносіцца шкода,
А спеў салаўя,
А спеў салаўя
Жадае слухаць прырода.

## ШУМЛІВАЕ МОРА

Шумлівае,
Вольнае мора,
Аб чым
Твае хвалі гаворадь,
Чаго дзень
І ноч не змаўкаюць,
Чаго супакою
Не знаюць?
Такое
Ў грудзях маё сэрца,
Уперад і ўперад
Ірвецца,
Ніколі не знае
Спакою,
Як хвалі тваё
Ў час прыбою.
А выпадуць зрэдку
Часіны,—
На гладзі тваёй
Цёмна-сіняй
Вясёлыя промні
Зайграюць
І бераг
Пяшчотна кранаюць.
То ў моры
Спакою часіны,
А ў сэрцы не спяць маім
Сілы,
Ніколі спачыну
Не знаюць
І крылаў сваіх
Не складаюць.

## ПАЛЯЦІМ НА ЗОРНЫМ КАРАБЛІ

Паляцім на зорным караблі,
Паляцім з табой.
І нашто, нашто нам цішыня
І спакой?

І планету адшукаем мы,
Выберам адну,
І такую светлую заўжды,
Як вясну.

Гэтую планету назавём
Іменем тваім,
А сынка народзіш,— будзем зваць
Азарым.

Паляцім на зорным караблі,
Куды скажаш ты.
Дзе мы будзем жыць з табой,
Там сады.

## АДНА НАРОДЖАНА

Іду лугамі я,
Сцяжынкай ходжанай,
Ты для мяне адна,
Адна народжана.

Сваім прыгоствам ты,
Сваімі чарамі
Змагла валодаць так
Маімі марамі.

І хмаркі ўдаль плывуць,
Плывуць над полейкам,
Калі няма цябе —
Не свеціць сонейка.

Іду лугамі я,
Сцяжынкай ходжанай,
Ты для мяне адна,
Адна народжана.

## ТАБЕ

Табе пяюць вясной вятрыскі,
Лугі зялёныя, палі,
Табе я кланяюся нізка,
Ажно да самае зямлі.

Табе шапоча рута-мята
І лісце дрэваў шалясціць,
І я ні ў чым не вінаваты,
Што мог цябе заваражыць.

Табе журчыць ручай вясновы,
Любуецца тваёй красой,
Твае мне сказаныя словы
Ў душы маёй, навек са мной.

Табе пяюць вясной вятрыскі
І салаўі ў лясным галлі,
Табе я кланяюся нізка,
Ажно да самае зямлі.

## ТВАЯ КРАСА

Развеяў вецер,
Развеяў вецер
Увесь мой сум,
Сабраў па свеце,
Сабраў па свеце
Тваю красу.

Ты стала краскай,
Ты стала краскай
Чароўнай той,
Шаптала з ласкай,
Шаптала з ласкай:
— Мой любы, мой.

І вусны жарам,
І вусны жарам
Мяне пяклі,
У танцы парай,
У танцы парай
З табой плылі.

І ўвесь на свеце,
І ўвесь на свеце
Мой знікнуў сум,
Прынёс мне вецер,
Прынёс мне вецер
Тваю красу.

## ЯБЛЫНЕВЫ ЦВЕТ

Заглянуў я ў сад,
Заглянуў я ў сад,
Там была і ты,
І табе я рад,
І табе я рад,
Кветка пекнаты.

Грушы, яблыні
Цветам зваблівым
Упрыгожылі вясну,
Не засну я ноч,
Не засну я ноч,
І цяпер мне не да сну.

Незабудка ты,
Незабудка ты,
Што дала зямля,
Пра цябе даўно,
Пра цябе даўно
Доўга марыў я.

Яблыневы цвет,
Яблыневы цвет,
Ружавеў, бялеў,
Я аб'ехаў свет,
Я аб'ехаў свет
І цябе сустрэў.

Грушы, яблыні
Цветам зваблівым
Упрыгожылі вясну,
Не засну я ноч,
Не засну я ноч,
І цяпер мне не да сну.

# ОЙ, ВЯРБА

Ой, вярба, ты, вярба
Зеляненькая,
Ой, дзяўчына мая
Маладзенькая.

Што, вярба, ты цвіцеш,
Распускаешся?
Што, дзяўчына мая,
Усміхаешся?

Як вясёлай не быць
І шчасліваю? —
Я на ніву гляджу
Урадлівую.

Засявалі яе
Мы шырокую
Са сваім дарагім,
Мілым сокалам.

А як ніва вакол
Каласілася,
Ў нашых сэрцах любоў
Нарадзілася.

## ДЛЯ ЦЯБЕ...

Для цябе, маё сонейка,
Што ты хочаш зраблю,
А таму, што прыгожанька,
А таму, што люблю.

Для цябе, маё сонейка,
Высь любую вазьму,
Скажаш толькі ты слованька —
Зорку з неба здыму.

Для цябе, маё сонейка,
Буду я маладым
І заўжды, як і сённека,
Гэткім юным заўжды.

Для цябе, маё сонейка,
Што ты хочаш, зраблю,
А таму, Соня, Сонейка,
Што ўсім сэрцам люблю.

## РАСЦВІТАЮЦЬ НЕЗАБУДКІ

Расцвітаюць незабудкі
І рамонкі, васількі,
Не магу жыць ні мінуткі
Без цяпла тваёй рукі.

Кветкі яблынь белым пухам
Засцілаюць весні сад,
Я цябе ўвесь час бы слухаў,
Бачыў ясны твой пагляд.

Хораша цвітуць рамонкі,
Незабудкі, васількі,
Без тваёй не жыць гамонкі,
Без цяпла тваёй рукі.

## ВАСІЛЬКІ

Васількі, васількі
Сінім плешчуць разлівам.
Васількі, васількі
Разуквецілі нівы.
Васількі, васількі.

Васількі, васількі —
Колер ясных нябёсаў.
Васількі, васількі
Бачны ў ранішніх росах.
Васількі, васількі.

Васількі, васількі
Вырастаюць на ўзлессі.
Васількі, васількі
Птушак слухаюць песні.
Васількі, васількі.

Васількі, васількі,
Вы мне сніцеся ўночы.
Васількі, васількі,—
Як любімага вочы.
Васількі, васількі.

## ТЫ ПРЫХОДЗЬ, МАЁ СЭРЦА

Ты прыходзь, маё сэрца,
Ты мяне не забудзеш,
Каб з табой, маё сэрца,
Неразлучнай мне быць,
Ты прыходзь, маё сэрца,
Ласку, радасць абудзіш,
І на свеце абоім
Весялей будзе жыць.

Ты прыходзь, маё сэрца,
Калі смутак агорне,
Калі нельга ні хвілі
Ні цярпець, ні трываць,
Ты прыходзь, маё сэрца,
Ясным днём, ночкай цёмнай,
Калі кветкі і травы
Хочуць спаць, спачываць.

Ты прыходзь, маё сэрца,
Як прыйсці немагчыма,
Ты прыходзь, маё сэрца,
Калі дождж, град сячэ,
Ты прыходзь, маё сэрца,
Без ніякай прычыны,
Жыць нам будзе на свеце
Весялей і лягчэй.

## БЕЛАЯ ХУСЦІНКА

Месяц ясны ў небе
Напаткаў хмурынку,
Пастаяў ён хвілю
І памчаў,
Завязала
Ярка-белую хусцінку,
Каб хлапчына
Лепей прыкмячаў.

Выбегла на стрэчу
Вечарам я з ганка,
Стала пад густы,
Цяністы клён
І глядзела сумна,
Як праходзіў Янка.
«І чаму праходзіў
Міма ён?»

Пастаяла ў небе
Лёгкая хмурынка
І кудысь пад ветрам
Паплыла,
І нашто, нашто ты,
Белая хусцінка,
І нашто мяне ты
Падвяла?

## БЯРОЗАВЫ ВЕЦЕР

Бярозавы вецер,
Бярозавы вецер
Гуляў па галінках бяроз
І мне навяваў:
— Я шчаслівы на свеце,
Я радаваўся аж да слёз.
    Схілялі бярозы
    Зялёнае веццe,
    Дзяўчына са мною была,
    Спяваў пра яе мне
    Бярозавы вецер
    Вясёлыя песні
    На ўскрайку сяла.
Бярозкаю белай,
Бярозкаю белай
Стаяла яна прада мной,
Глядзеў ёй у вочы,
Нібы анямелы,
Нібы зачараваны ёй.
Навекі каханне,
Навекі каханне
Радзілася ў сэрцах тады,
Бярозавы вецер
Гуляў на змярканні,
Калі расцвіталі сады.
    Схілялі бярозы
    Зялёнае веццe,
    Дзяўчына са мною была,
    Спяваў пра яе мне
    Бярозавы вецер
    Вясёлыя песні
    На ўскрайку сяла.

## ДЗЯВОЧАЯ ЛІРЫЧНАЯ

Хвалі ціха,
Ціха калыхаюцца,
Вецер лашчыць
Хустачку маю,
А гармонік
Звонка заліваецца,
Я адна на беразе стаю.

Неба ў зоры ясныя
Расквечана,
Месяц тоне
У рачной вадзе,
Ты іграеш
З надыходам вечара,
Да мяне
Чамусьці не ідзеш.

Ой, пара чароўная
Сустрэчная,
Мы з табой
На беразе стаім,
Ты сыграй мне,
Як сады зарэчныя
Абудзілі песняй
Салаўі.

## САЛАЎІНАЯ НОЧ

Салаўіная ноч,
Салаўіная ноч,
Салаўіныя трэлі,
Ад цябе не адвесці вачэй,
Мы ад шчасця
З табой анямелі.

Ты маўчыш, я маўчу,
Ты маўчыш, я маўчу,
Пра ўсё мы гаварылі,
Задушэўныя тайны свае,
Тайны сэрцаў сваіх
Мы адкрылі.

Ціха плешча рака,
Ціха плешча рака,
Хвалі ў месячным ззянні,
Хутка ранак,
Расстацца пара:
Хто прыдумаў на свеце расстанні?

Салаўіная ноч,
Салаўіная ноч,
Салаўі не змаўкалі,
Звонкай, радаснай песняй сваёй
Усход сонейка
З намі стрэчалі.

# КУПАЛЛЕ

Ой, Купалле,
Ой, Купалле,
Месячная ночка,
Хараша ўдваіх
З табою
Ў зялёным гаёчку.

Ой, Купалле,
Ой, Купалле,
Светлая крыніца,
Любая
Мая дзяўчына,
Радасць, чараўніца.

Ой, Купалле,
Ой, Купалле,—
Песні звонка пелі,
Скора, скора ўжо,
Дзяўчына,
Нашае вяселле.

## БЛІЗІЦЦА ВЕЧАР

Блізіцца вечар,
Сонейка зойдзе,
Міленькі прыйдзе,
Міма не пройдзе.

Міма не пройдзе ён
Майго дому,
Выйду насустрач я
Маладому...

Выйду насустрач
І пачакаю,
Мілага песняй
Я пагукаю.

Ён адгукнецца
Светлым каханнем,
Ці ёсць на свеце
З ім параўнанне?

Ці параўнацца
Можа каханне
З зоркаю яснай,
Зоркаю ранняй?

Зорка на небе
Ўзыдзе і зойдзе,
Міма кахання
Сэрца не пройдзе.

## ЧАКАННЕ

Выплыў месяц
З-за густога лесу,
Выплыў
Месяц залаты,
Я цябе чакаю,
Мой Алесю,
Толькі
Не прыходзіш ты.

Засвяцілі зоркі
Па-над Сожам,
Засвяцілі нада мной,
Я сумую,
Любы мой,
Прыгожы,
Што ты сёння
Не са мной.

Дзе ты, дзе ты,
І сама не знаю,
Да мяне
Ці прыйдзеш ты?
Я цябе
Да зоркі пачакаю,
Покуль зойдзе
Месяц залаты.

## ЯК ЦЯБЕ НЕ ХАПАЕ

Я іду,
А смуга
Далягляд
Ахінае,
І такая
Туга —
Як цябе
Не хапае.

Жыта спее
Наўкруг,
Каласы
Нахіляе,
Ты далёка,
Мой друг,—
Як цябе
Не хапае.

Дзе хадзілі
З табой,
Птушка там
Напявае,
Я лаўлю
Голас твой —
Як цябе
Не хапае.

## СЛЯЗА

Ты не тое, родны,
Слова мне сказаў,
І з вачэй маркотна
Пырснула сляза.

Ты параніў сэрца мне
І не адчуў,
А таму я плачу,
Плачу і маўчу.

Многа ёсць на свеце
Цёплых, добрых слоў,
Што пяшчоту дарацць,
Ласку і любоў.

Лепш такое слова
Ты б мне і сказаў,
Каб з вачэй лілася
Радасці сляза.

# Я НІКОМУ ЦЯБЕ НЕ АДДАМ

Я нікому цябе не аддам,
І пайду па тваіх я слядах,
І пайду па тваіх я слядах.

Адшукаю, дзе б ты ні была,
Як далёка б ты ні заплыла,
Як далёка б ты ні заплыла.

Рэкі, моры я ўсе праплыву,
І нябёс аблячу сіняву,
І нябёс аблячу сіняву.

Станеш рыбкай — агні тваіх воч
Распазнаю і ўдзень я і ўноч,
Распазнаю і ўдзень я і ўноч.

Станеш чайкай — і сумны крык твой
Над усёю пачую зямлёй,
Над усёю пачую зямлёй.

Пайду ў свет па тваіх я слядах,
Я нікому цябе не аддам,
Я нікому цябе не аддам.

## ЧАРОМХІ ЦВЕТ

Калі б цвет з ліп не ападаў,
Жыў вечна чалавек,
Калі б ён горача кахаў
Няспынна з веку ў век...

Каханне — прыгажосць зямлі —
Ўратуе свет,
Няхай квітнеюцца палі,
Чаромхі цвет.

Калі б салоўка ўсё спяваў,
Была заўжды вясна,
Калі б ніхто з нас і не знаў,
Што зло ёсць і мана...

Калі б спагады і цяпла
Нам болей у душы́,
Тады б зямля мая цвіла
Ў спакоі і ў цішы.

Каханне — прыгажосць зямлі —
Ўратуе свет,
Няхай квітнеюцца палі,
Чаромхі цвет.

## ЦВІЦЕ ЧАРЭШАНЬКА

*З народнага*

Цвіце, цвіце
Чарэшанька
Каля пералазу,
Пакахала
Міленькага
Я з першага разу.

Вельмі моцна
Пакахала,
Ды не мілавала,
І, напэўна,
Я праз гэта
Хлопца адагнала.

Не прыходзіць ён
Сягоння,
Не прыйшоў і ўчора,
Я да ранку
Прастаяла —
І патухлі зоры.

Як узыдзе толькі
Сонца,
Пайду да крыніцы,
Набяру я там
Вядзёрцы
Сцюдзёнай вадзіцы.

Панясу вадзіцу
Ціха
Міма яго вокан,
На мяне ён, можа,

Гляне,
Гляне адным вокам.

Цвіце, цвіце
Чарэшанька
Каля пералазу,
Пакахала
Міленькага
Я з першага разу.

## ХТО КАХАЕ — НЕ ПЫТАЕ

Клён зялёны, кучаравы,
Пышна расцвітаеш,
Хто кахае — не пытае:
— Ты мяне кахаеш?

Долу хілішся, бярозка,
Лісцямі хістаеш,
Хто кахае — не пытае:
— Ты мяне кахаеш?

Клён зялёны, кучаравы,
З ліпаю шапочаш,
Хто кахае — не пытае,
Кажуць самі вочы.

## ПАЛАХЛІВАЯ

Я ўрадзілася
Палахлівая
І таму, мабыць,
Нешчаслівая.
Выйду вечарам,
Адзінокая,
Без каханага
Чарнавокага.
А сяброўачкі
Заляцаюцца,
З мяне ўпотайкі
Насміхаюцца:
— І прывабная,
І прыгожая,
Ды нясмелая —
Дык нягожая.
Праўду кажуць мне,
Што нясмелая,
Ад вачэй чорных
Анямела я,
Не скажу пры іх
Нават слованька,
Засланілі мне яны
Сонейка.
Вочы чорныя,
Здагадайцеся,
Ў мяне, мілыя,
Закахайцеся,
І не буду больш
Палахліваю,
Буду смелаю,
Гаманліваю.

## ВЫЗНАЛА

Плацце я ў рэчцы вымыла,
Берагам выйшла на поле,
Добра цябе я вызнала
І не дарую ніколі.

Я здагадалася, вызнала,
Зблізіўся што ты з другою,
І я дарэмпа бы выбрала
Шлях свой жыццёвы з табою.

З сэрца твайго я выбыла
Быццам з часовай прапіскі,
Я твой характар вызнала,
І ты не стаў другам блізкім.

Я здагадалася, вызнала,
Што ты не шчыры душою,
І я, вядома, не выбрала
Шлях свой жыццёвы з табою.

Выйшла я ў чыстае поле,
Вецер развее трывогі,
І ўжо не сыдуцца болей
Нашы з табою дарогі.

Я здагадалася, вызнала,
Што ты не верны душою,
І вось таму я не выбрала
Шлях свой жыццёвы з табою.

## ШТО БЫЛО — ПРАЛЯЦЕЛА

Што было — праляцела
Летняй ціхай смугой,
Адгуло, адзвінела,
І не вернеш яго.

Адспявала на полі
Маладой збажынай,
Нам не стрэцца болей
Аніколі з табой.

Я запомніў твой голас,
Ён мяне чараваў,
І жытнёвы той колас,
Што на ніве шаптаў.

Што было — праляцела
Летняй ціхай смугой,
Адгуло, адзвінела,
І не вернеш яго.

## ЦЯЖКА ЗАБЫЦЬ

Змог цябе зноў пабачыць
І прашу мне прабачыць:
Сэрца з сэрцам,
Відаць, не злучыць,
Што між намі бывала,
Адышло, мінавала,
Хоць твой воблік
Мне цяжка забыць.

Я скажу на расстанні,
Што ў няўдалым каханні
Вінаватых
Не трэба шукаць,
Так звычайна і ў клёна
Ліст трывалы зялёны
Пажаўцее,
Пачне ападаць.

Ты прыснішся, я знаю,
Я цябе прыгадаю,
І мне цяжка
Адно зразумець:
Як агонь паміж намі
Тымі веснімі днямі
Загарэўся
І змог дагарэць?

## УСЮ НОЧКУ

Усю ночку, усю ночку
Не магла ніяк я спаць.
А чаму,
Сама не знаю:
Хто мне можа
Адказаць?

Ці таму, што
Вецер весні
Шапацеў
Паміж алей,
Ці таму, што
У садочку
Заліваўся
Салавей?

Ці таму, што
Клён зялёны
Нахіляўся
Над акном
І нібыта
Мне размахваў
Сваім
Пышным рукавом?

Ці мне ў ветра,
Ці мне ў клёна,
Ці спытаць
У салаўя,
Ці ў мілога,
Што сказаў мне
На расстанні —
Ты мая?

Усю ночку, усю ночку
Не магла ніяк я спаць.
А чаму,
Сама не знаю:
Хто мне можа
Адказаць?

# КАЛІНАЧКА БЕЛЫМ ЦВЕТАМ

*З народнага*

Каліначка белым цветам
Расцвіла ля хаты,
Дружыў хлопец тры гадочкі,
Але не сасватаў.

Ці ж не гожа, не прыгожа
Я з паставы, з віду,
Не горш іншых і на працу,
На гулянне выйду.

І ўсё ён мне абяцае —
Ажанюся хутка.
Калі ж прыйдзе ўжо, не знаю,
Гэтая мінутка?

Каліначка белым цветам
Расцвіла ля хаты.
Прыязджай хутчэй ты, хлопец,
Я чакаю — сватай!

## ОЙ, ЯК ЦЯЖКА АЖАНІЦЦА

Хлопец стаў я ніштаваты,
Захацеў жаніцца,
А не знаю, да дзяўчыны
Як мне падступіцца.

Прыйсці ў дом, сказаць кахаю,—
Можа, не паверыць,
Ды яшчэ яна папросіць,
Каб выйшаў за дзверы.

Падысці і ўзяць за ручку,
Паглядзець у вочы,—
Дык падумае дзяўчына,
Я дурненькі хлопча.

Напісаць ёй ліст сардэчны
І ва ўсім адкрыцца,—
Задзярэ свой нос высока,
Будзе ганарыцца.

За ёй хлопцы гужам ходзяць,
Гэтакай прыгожай,
Ой, як цяжка ажаніцца.
Хто мне дапаможа?

Аніхто не дапаможа:
У каго пытацца?
Можна так і нежанатым,
Халастым застацца.

## ВЯСЁЛАЯ ТАНЦАВАЛЬНАЯ

Ой, выходзь смела ў круг,
Даражэнькі,
Не дзядулька ты,
А маладзенькі,
Ногі самі
Так хутка заходзяць,
І не стомішся ты
Ў карагодзе.

Паглядзі,
Колькі многа прыгожых,
Працавітых
Малодак харошых,
Эй, гуляй,
Гуляй, весяліся,
Нежанатым быў —
Ажаніся!

І зайздросцяць табе
Маладзіцы
І мажныя
Жанчыны-ўдавіцы,
А як тупнеш,
Прытупнеш нагою —
І дзяўчаты
Бягуць за табою.

І жанкі, юнакі
Ў круг выходзяць
І красунек нясмелых
Выводзяць,
Будуць, будуць

У нас наваселлі
І заручыны
Ды і вяселлі.

Паглядзі,
Колькі многа прыгожых,
Працавітых
Маладак харошых.
Эй, гуляй,
Гуляй, весяліся,
Нежанатым быў —
Ажаніся!

## ВЯСЕЛЬНАЯ

На вяселлі
Песні радасці гучаць.
Што ад сэрца
Маладым нам пажадаць?
Пажадаем
Жыць ім дружна з году ў год
І не знаць
Бяды ліхой
І злых нягод.

На вяселлі
Зычаць госці маладым
Сіл на доўгія
І доўгія гады,
Жыць у згодзе
І ніколі не старэць,
Дзетак,
Нібы ў полі кветак,
Столькі мець.

У нявесты
Вусны вішанькай гараць,
На вяселлі
Песні радасці звіняць,
Весялосці больш такое
Не знайсці,
Маладым
Няхай шанцуе у жыцці!

## ЗАЛАТОЕ ВЯСЕЛЛЕ

*Вальс*

Раздажджылася
Восень,
Раздажджылася
Восень,
Вецер ціха дыхнуў
Халадком,
Пад адным парасонам,
Пад адным парасонам
Мы па вуліцы крочым
Радком.

З ласкай шчырай
З табою,
З ласкай шчырай
З табою
Пражылі
Пяцьдзесят мы гадоў,
Валасы пасівелі,
Валасы пасівелі,
Ды не старыцца
Наша любоў.

Праяснілася
Восень,
Праяснілася
Восень,
Нібы лета прыйшло
Ў гэты час,
Залатое вяселле,
Залатое вяселле
Завітала
Як свята да нас.

## ЗАХВАРЭЛА Я

Захварэла я,
Захварэла я,
Ломіць ногі, рукі.
Калі б ведаў хто,
Калі б ведаў хто,
Што за мукі.

Маці кажа мне,
Маці кажа мне,
Ўрач прыедзе, можа,
Не патрэбны ён,
Не патрэбны ён,
Не паможа.

Галава баліць,
Галава баліць,
Вельмі ные сэрца,
Месца не знайду,
Месца не знайду:
Дзе мне дзецца?

Так нутро гарыць,
Так нутро гарыць,
Я застыла недзе.
Глянула ў акно,
Глянула ў акно —
Хлопец едзе.

Едзе любы мой,
Едзе любы мой —
Лёгка стала,
Сэрцайка балець,
Сэрцайка балець
Перастала.

## ЗАКРУЖЫЛАСЯ ГАЛАВА

Ах ты, травачка, ах ты, травачка,
Ах ты, травачка-мурава,
Закружылася, закружылася,
Закружылася галава.

А чаго яна закружылася? —
Мой каханы са мной ідзе,
І пад ручаньку, і пад ручаньку,
І пад ручаньку ён вядзе.

Трымай, міленькі, трымай, міленькі,
Трымай, міленькі, на хаду,
Бо я ў травачку, у муравачку
Ціха, ціхенька ўпаду.

Ды не ўпала я, ды не ўпала я,
Прыхінулася да плячэй,
Цалуй, родненькі, мой каханенькі,
Цалуй, любы мой, гарачэй!

## МОЙ САКРЭТ

Вішні цвет,
Вішні цвет,
Сад цвіце надрэчны,
Ёсць сакрэт,
Ёсць сакрэт
У мяне сардэчны.

Вішні цвет,
Вішні цвет
Пахне ранкам рана,
Мой сакрэт,
Мой сакрэт —
Я люблю Івана.

Вішні цвет,
Вішні цвет
Белы, пышны ў маі,
І сакрэт,
І сакрэт
Сам Іван не знае.

Вішні цвет,
Вішні цвет
Лёгка запрыкмеціць,
Мой сакрэт,
Мой сакрэт
Хлопец рассакрэціць.

## МАРЦЫПАНЫ

— Ты здымі мне
З неба зорку.
— Ну, якая тут гаворка,
Я здыму
І цябе абдыму.

— А табе я,
Мой каханы,
Падарую марцыпаны.
— Падаруй,
Я жаданнем гару.

— Абяцаная
Дзе зорка?
— Свеціць ярка
Над той горкай.
— Дык здымай
І хутчэй мне аддай...

Не зняў зоркі
Мой каханы,
Скаштаваў жа
Марцыпаны,
Яны — смак,
Вось было смешна як!

## ЛАВЕЛАС

Напаткаўся, напаткаўся
На шляху адзін дзівак,
Заляцаўся, заляцаўся
Так і гэтак, так і так.

Прытвараўся, прытвараўся —
Без мяне памрэ адзін,
За другой сам, за другой сам
Валачыўся ён, хадзіў.

Рассыпаўся, рассыпаўся
Дробным макам прада мной,
І стараўся, і стараўся
Абкруціць мяне манoй.

Я спазнала, я спазнала,
Што сапраўдны лавелас,
І сказала, і сказала:
— Абыдуся і без вас.

# ПЕСНЯ ПАКРЫЎДЖАНАГА МУЖА

Як была дзяўчына —
Красачка, ласачка,
А як стала жонка —
Ўелася ў пячонку:
Рэжа, коліць і сячэ,
Бы мароз які пячэ,
Не язык, а джала,—
Што з кабетай стала?

І ступаю я не так,
Недарэка я, лайдак,
І нячолены, нядбайны,
І мурзаты, неахайны,
І з вялізнай барадой,
Ой, спазнаўся я з бядой!

Я, браткі, ўжо і старанны,
Працаваць спяшаю рана,
Часта мыюся, галюся,
Як патрэбна адзяюся,
Пагаліў і бараду —
Зноў патрапіў у бяду.

Жонка стала прыставаць,
Да суседкі раўнаваць,
Кажа мне:
— Нашто галіцца,
Нашто ў лазні
Часта мыцца,
Астрыгаць нашто пазногці?
Так і мыліць мае косці.

Як была дзяўчына —
Красачка, ласачка,
А як стала жонка,
Ўелася ў пячонку:
Рэжа, коліць і сячэ,
Бы мароз які пячэ,
Не язык, а джала,—
Што з кабетай стала?

## ЖЫЦЬ НЯЛЮБА

Усхадзіўся,
Усхадзіўся
Вецер буйны каля дуба,
Сапсаваўся,
Сапсаваўся
Мой нялюбы.

А чаму ён,
А чаму ён
Так абрыдзеў, сапсаваўся?
А работы,
А работы
Адцураўся.

Лежабока.
Лежабока...
Цягне, смокча, п’е гарэлку,
Цэлы тыдзень,
Цэлы тыдзень
З панядзелка.

Усхадзіўся,
Усхадзіўся
Вецер буйны каля дуба,
Мне з п’янчугам,
Мне з п’янчугам
Жыць нялюба.

## КАМАР ЖЭНІЦЦА СТАРЫ

Граюць, граюць на двары,
Камар жэніцца стары,
Камарыху кінуў ён,
Выбраў муху маладзён.

Маладуха-муха рада,
Бо для мушкі ёсць прынада:
Шмат багацця ў камара,
Модных туфелек гара,
Аксамітавыя плацці,
Дываны ў прасторнай хаце.

Граюць, граюць на двары,
Камар жэніцца стары,
Скача, крыллямі трасе,
Быццам чорт яго нясе.

Муха фіфачкаю ходзіць,
З панталыку хлопцаў зводзіць,
Бровы фарбай зіхацяць,
Чаравічкі аж рыпяць,
Сціх камарык, паглядае,
Як шалее маладая.

Вось пражыў тры дні камар,
Спахмурнеў старога твар,
Чэзне, сохне ад бяды,
Жонка проста нікуды...
Як прытупне ды прыкрыкне,
То камарык і не пікне,
Не жадаеш, дык жадай,
Густу мухі дагаджай!

Трапіў сам камар у нерат,
Ні назад яму, ні ўперад!

# САБІРАЙСЯ Ў ГОСЦІ, МОЙ ДЗЯДОК

*З народнага*

— Сабірайся ў госці,
Мой дзядок,
Сабірайся ў госці,
Галубок.

— Не пайду, бо холад
На двары,
Боль сціскае косці,
Я стары.

— Сабірайся ў госці,
Мой дзядок,
Сабірайся ў госці,
Галубок.

— Не пайду ж у госці,
Я кажу.
Лепш крыху на печы
Паляжу.

— Калі ты не пойдзеш,
Грошы дай,
Трэба ж мне аднесці
Каравай.

— Бяры грошы, мне іх
Не шкада.
Толькі адчапіся ты,
Бяда.

— Дык ляжы на печы,
Стары дзед,
Са мной пойдзе ў госці
Наш сусед.

— Пачакай, бабулька,
Пачакай,
Іду ў госці зараз,
Выбачай!

## ОЙ, ДЫ Я

*З народнага*

Як пайшла я да крыніцы,
Прастаяла з маладзіцай,
Ой, ды я, ой, ды я.

Дровы ў печы прагарэлі,
Дзеці з плачу адурэлі,
Ой, ды я, ой, ды я.

Пакуль лаяла я дзеда,
Не зварыла я абеда,
Ой, ды я, ой, ды я.

А настала як змярканне,
Паспяшала на гулянне,
Ой, ды я, ой, ды я.

Там я весела гуляла,
Аж да ранку танцавала,
Ой, ды я, ой, ды я.

А прыйшла дамоў уранку,
Не пазнала сынку-Янку,
З парсюком спіць на парозе,
Дзед стары лье горкі слёзы,
Дачка румзае мая,
Ой, ды я, ой, ды я.

## ЦЕПЛЫ ДОЖДЖЫК

Цёплы дожджык,
Цёплы дожджык
Раздажджыўся.
А чаму ты,
Мой дурненькі,
Зажурыўся?..
Ці таму, што
Рана-ранкам,
Рана-ранкам
Я хадзіла,
Я гуляла ў лузе з Янкам?

Цёплы дожджык,
Цёплы дожджык
Раздажджыўся.
А чаму ты,
Мой дурненькі,
Зажурыўся?..
Ці таму, што
Днём гарачым,
Днём гарачым
Ты з Міколам
Каля рэчкі мяне бачыў?

Цёплы дожджык,
Цёплы дожджык
Раздажджыўся.
А чаму ты,
Мой дурненькі,
Зажурыўся?..
Ці таму, што,
Ці таму, што
Вечарочкам

Пасядзела з Юркам
Трошачкі ў садочку?

Цёплы дождж́ык,
Цёплы дождж́ык
Раздаждж́ыўся.
А чаму ты,
А чаму ты
Зажурыўся?

## НЕЗДАРОВІЦЦА

Не пайду я на работу —
Нездаровіцца,
У руках, нагах ламота —
Нездаровіцца.

Я паліць не стала печы —
Нездаровіцца,
Разбалеліся мне плечы —
Нездаровіцца.

Суткі цэлыя праспала —
Нездаровіцца,
Неахвотна, ледзь устала —
Нездаровіцца.

За стол есці хутчэй села —
Нездаровіцца,
Паўбуханкі хлеба з'ела —
Нездаровіцца.

Упляла кавалак сала —
Нездаровіцца,
І гарлач смятаны ўмяла —
Нездаровіцца.

А пайшла я на гулянне,
Весялілася,
Танцавала аж да рання,
Не стамілася.

Як пазвалі ж на работу —
Нездаровіцца,
У руках, нагах ламота —
Нездаровіцца.

# УСПАМІНЫ СТАРОЙ БАБУЛІ

*З народнага*

Дзеткі, то было даўно,
Ды не вернецца яно,
Ох, ну, ды, ох, ну,
Ды не вернецца яно.

Не жыло сяло — гніло,
Хлеба ўволю не было.
Ох, ну, ды, ох, ну,
Хлеба ў волю не было.

Пад акенцам балаты,
Замест жыта — чараты,
Ох, ну, ды, ох, ну,
Замест жыта — чараты.

Пралі позна, да начы,
Пры лучыне і карчы.
Ох, ну, ды, ох, ну,
Пры лучыне і карчы.

У сяле карчма, шынок,
Два пісьменных —
                    поп, дзячок.
Ох, ну, ды, ох, ну,
Два пісьменных —
                    поп, дзячок.

П'яны муж, а колькі слёз,
Гоніць босу на мароз,

Ох, ну, ды, ох, ну,
Гоніць босу на мароз.

Пан пракляты з парабкоў
Цягнуў жылы, смактаў кроў,
Ох, ну, ды, ох, ну,
Цягнуў жылы, смактаў кроў.

Дзеткі, то было даўно,
І не вернецца яно.



# 2

Рытмы, гукі, рыфмы, словы
Нараджаюцца ў цішы,
Як пражытага высновы,
Перажытага ў душы.



## ПРАЖЫТА-ПЕРАЖЫТА

З гадамі стаў
Бурклівы я, калючы,
Мінулае ўяўляю
Прывідам балючым.

Пражыта многа,
Яшчэ болей перажыта,
І я для цяжкасцей
Народжаны нібыта.

## НАСТАЎНІК МОЙ

Настаўнік мой,
Дзе ты цяпер, не знаю,
Ты ўжо стары, і я —
Не малады,
Цябе я часта,
Часта ўспамінаю,
Твой вобраз
Пранясу праз гады.

Настаўнік мой —
Шапчу я ціха словы
І з ласкаю магу
Цябе ўявіць,
Як ты вучыў мяне
Трымаць аловак,
Чытаць, пісаць
Пачаў мяне вучыць.

Настаўнік мой,
Свае на сэрцы мукі,
І крыўду, часам горкую
Да слёз,
І радасць светлую,
І мары-думкі —
Табе я ўсё,
Нібы на споведзь нёс.

Настаўнік мой,
Ніяк мне немагчыма
Забыць старанняў,
Клопатаў тваіх,
Мяне ты навучыў
Любіць Айчыну
І ненавідзець ворагаў сваіх.

Настаўнік мой,
Дзе ты цяпер,
Не знаю,
Ты ўжо стары, і я —
Не малады,
Цябе я часта,
Часта ўспамінаю,
Твой вобраз
Пранясу цераз гады.

## БЫЦЦЁ І ЖЫЦЦЁ

Быццё і жыццё —
Што гэта такое?
Гарэнне.
І тленне
Ў цішы, спакоі...

Гарэнне — імкнуцца
І прагнуць працы,
А тленне — ў застоі
Быць, заставацца.

Якое быццё —
Такая свядомасць,
Якое жыццё —
Такая вядомасць.

6 Зак. 3075

## РОЗДУМ

Вакольнае
Ты наша асяроддзе:
Зялёны шум
Бярозак і асін,
І поле,
На якім пшаніца родзіць,
І неба —
Як вачэй дзіцячых сінь...

Ці будзеце заўсёды
Вы такімі,
Ці, можа быць,
Страшэнная рука
Уздыме зброю,
Што ўжо не пакіне
Жывымі:
Чалавека, матылька?

Няўжо не можна
Гэтую пагрозу,
Пакуль не позна,
Нам цяпер спыніць,
Каб верх у свеце ўзяў
Сапраўдны розум
І людзі ўсе
Маглі спакойна жыць?

## УДАЧА

У мяне ні машыны,
Ні дачы,
Ёсць заўсёды
Надзейны кіёк,
Калі часам
Самота, няўдача,
Я іду
Ў свой знаёмы лясок...

А лясок
Сустракае гасцінна,
Адкрывае з пашанай
Дары,
Расхінае галіну
Асіна —
Грыб красуецца —
Ў кошык бяры.

Кветка з ветлай усмешкай,
Як знічка,
Нахіляе
Галоўку сваю.
Побач свеціць
Ліхтарык-сунічка...
Зачараваны
Тут я стаю.

Гай, лясок мой,
Стазвонны, птушыны,
Ты прывабны
Ў любую пару,
Добры дружа,
Таварыш гасцінны,

У цябе я
Натхненне бяру.

У мяне ні машыны,
Ні дачы,
Ёсць заўсёды
Надзейны кіёк,
Я лічу
Самай лепшай удачай,
Як звініць
Кожны ў вершы радок.

## ДРЭВА ЖЫЦЦЯ

Кветка тая табе прыгажэй,
Дрэўца тое табе даражэй,
Што расціў ты
Сваімі рукамі,
Што садзіў,
Даглядаў, паліваў,
Рост і сілу
Яму прыдаваў,
Каб яно
Зашумела лістамі.

Дзетка тая табе даражэй,
Хлопчык той табе змалку мілей,
Што з пяшчотаю
Лашчыў малога,
Турбаваўся,
Каб вырас хутчэй,
Недаспаў
Столькі доўгіх начэй,
Каб яго
Абмінала трывога.

І калі гадаванец-сынок,
Твой маленькі яшчэ пестунок,
Слова вымавіць першае:
«Тата» —
Знікне ўмомант
Самота з вачэй,
Стане раптам
На сэрцы лягчэй
І асвеціцца
Радасцю хата.

## МАМУ СВАЮ ПРЫПОМНЮ...

Маму сваю
Прыпомню:
Прачыналася
Ў поўню
І кудзелю
Прала,
Кросны ставіла,
Ткала
З самага рання
Да ночы.
Змружваліся
Вочы,
Рукі працавалі,
Не адпачывалі.
— Агрыпіна Рыгораўна! —
Клікалі суседзі.—
Жыта жаць
На палі далёкія
Скора едзем,
Дык хутчэй ты
Збірайся, Агрыпінка!

Не сыходзіць
Мама
З майго
Ўспамінку.

## ПАЖОЎКЛЫ ЛІСТ

Дарую ўсё сабе,
Усё дарую
І злосці
На сябе я не таю,
А не дарую тое,
Што старую
Пакрыўдзіў
Маці любую сваю.

А чым пакрыўдзіў,
Як я правініўся,
Што ў роспачы
Не стрымліваю слёз?
На дом далёкі родны свой
Забыўся
І ліст на пошту
Нават не аднёс.

А час прайшоў —
І ліст той пажаўцелы
Ляжаў перада мною
На стале,
Як сведка аба мне,
Аб зачарсцвелым,
Чуллівасці якому
Не стае...

## СЯМЁРА ДАЧОК

*З народнага*

А было ў матулі
Сямёра дачок,
І адзін старэйшы,
Першанькі сынок.

Завітала маці
К сыну гасцяваць,
Адны дочкі сталі
Жыць ды пажываць.

Без матулі хата,
Нібы сірата,
Не цікавяць гульні
Нават і катá.

Маці ўнукаў тыдзень
Няньчыла малых,
Прыбыла дадому
Да дачок сваіх.

Запытала маці,
Як жылося ім:
— Можа, вам не трэба,
Дзеткі, я зусім?

Перша дочка кажа:
— Сумна так было,
Нейкае страхоцце
На мяне найшло.

А другая кажа:
— Я не спала ноч,

У акно глядзела,
Не самкнула воч.

Трэцяя і кажа:
— Не было і дня,
Па табе каб горка
Не плакала я.

І чацвёрта кажа:
— Звяла, як трава,
Забалела моцна
Мая галава.

Пятая за шыю
Стала абдымаць:
— Добра мне з табою,
Хочацца спяваць.

Шостая смяецца,
Голасна крычыць:
— Без цябе, матуля,
Не магла я жыць.

Ростам невялічка
Сёмая была,
Зняла чаравічкі
І вады дала...

Маці напаіла,
Ногі стала мыць,
На старую моўчкі
Ласкава глядзіць.

Дык якая ж дочка
З усіх семярых
І мілей, лагодней,
Лепшая за ўсіх?

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Ты расы
Самай чыстай чысцей,
Ты крыніц
Самых звонкіх званчэй,
Наша простае,
Шчырае слова —
Беларуская родная мова.

Нізашто лепш
Не скажаш ніколі,
Лепш не выкажаш
Радасці, болю
У адзіным,
Адным толькі слове,
Як на мове сваёй,
Любай мове.

Тут і шум
Хваль блакітных азёраў,
Тут і гоман
Адвечнага бору,
Спеў салоўкі,
Куванне зязюлі,
Голас сэрца
Любімай матулі.

А ці будзеш так
Сум сумаваць,
Ці вясёлую песню
Спяваць,
А ці рэха будзіць
У дуброве,

Як на звыклай,
На матчынай мове?!

Ты расы
Самай чыстай чысцей,
Ты крыніц
Самых звонкіх званчэй,
Наша вечнае,
Шчырае слова —
Беларуская родная мова.

## ТРЫ МАЦІ

Ёсць у нас тры
Нашы любыя маці,
Гэта такое
Вялікае шчасце.

Першая маці,—
Што нас нарадзіла.
Маці другая —
Наша Радзіма.

Трэцяя маці —
Наша прырода,
Маці
Ўсяго чалавечага роду.

## ЧОРНАЯ БЫЛЬ

Чорная быль,
Чорная быль,
Чорным, Чарнобыль,
Ты быў,
Чорнай заліты
Смугой,
Чорнаю
Нашай бядой.
Дрэвы дрыжалі,
Кусты,
Падалі долу
Лісты,
Смерць на вачах
У людзей,
Крык вырываўся
З грудзей.
Тыя, хто гэта
Маглі,
Станцыю
Не збераглі,
І ў іх раўнадушных
Руках
Выбухнуў
Ядзерны жах.
Тысячы
Зведалі боль,
Неслі у сэрцах
З сабой.
Люд, дзе б ні жыў,
Дзе б ні быў,
Чорную быль
Не забыў!

## МОРА ПРАЦУЕ

Мора працуе,
Мора працуе,
Па неабсяжных прасторах
Гарцуе,
Белыя грывы
Ўскідваюць хвалі,
Скачуць галопам
У сінія далі...

Мора працуе,
Натхнёна працуе,
І не стамляецца мора,
Вечна кіпучае
І неўміручае,
Як Чалавек-непакора.

## ШТОРМ

Гром грыміць,
І чутны
Грозныя раскаты,
Набягае,
Насядае
Вал дзевяты.

Мора пырскае
Зласліва
Пенай белай,
Завывае зверам
Люта,
Ашалела.

Хвалі-волаты
Камені
Дробняць, точаць,
Не то стогнуць,
Не то плачуць
І рагочуць.

Навальніца,
Гром грыміць,
Чуваць раскаты.
Набягае,
Насядае
Вал дзевяты.

## ЖЫЦЕЧКА

Жыцечка, жыцечка,
Жыта,
Жыцечка, жыта —
Жыццё,
Словы, як песня
Нібыта,
Словы — душы
Пачуццё.

## ДЗЯДЗЬКУ КОЛАСУ

Па лясах,
Па палях
І па пожнях
Дзядзька Колас
Упэўненым крокам ступаў,
Размаўляў ён
З травінкай,
З былінкаю кожнай,
Кожны колас яму
Песню-мару шаптаў.

І сабе ўзяў ён
Прозвішча — Колас,
Каб натхненне
Жывілася сокам зямлі,
Каб мацнеў,
І дужэў,
І лунаў яго голас,
І каб песні
Да сонца,
Да шчасця вялі.

## СПАДЧЫНА

> Ад прадзедаў спакон вякоў
> Мне засталася спадчына...
>
> *Янка Купала*

Ад дзядоў і прашчураў
Засталася спадчына,
Як сівой гісторыі сляды,
Слых, пачуцці лашчыла
Мова наша матчына
І жыла. І будзе жыць заўжды.

І Скарыны слыннага,
І Купалы ўдумнага
Словы — залатыя каласы,
Словы векапомныя,
Вабныя, чароўныя —
Гэта нашай праўды галасы.

Ад дзядоў і прашчураў
Засталася спадчына...
Мова беларуская жыве,
Нібы сонца яснае,
Вечна непагаснае
У неабсяжнай неба сіняве.

## ПРАРОК

Ён бачыць
Жыцця неўміручага ход,
Ён бачыць
Праз буру змрок,
Свой край і зямлю,
Гераічны народ,
Паэт-прадказальнік,
Прарок.

Нясе
У сваім сэрцы
Святло ясных мар,
Развейвае цемру і злосць
І зычыць нашчадкам
Вялікі пясняр
Дабро, хараство,
Прыгажосць!

## БАГАТЫ Я

Багаты я:
Маё багацце
Не дываны,
Не люстры ў хаце,
Не зліткі золата,
Не грошы,
А верны сябра мой
Харошы.

## СЭРЦА

Сэрца можа
Радавацца і злавацца,
Сэрца можа
Дужа хваляватца,
Сэрца можа
І маўчаць зацята,
Ды сказаць не можа:
— Я не вінавата.

## МАСТАК

Мастак вясну
Намаляваў,
Вясна —
Прыгожая дзяўчына,
І ён блакіт
У неба ўзяў —
Вачэй акрасу
Для зачыну.

Для вуснаў
Колер падабраў
Даспелае
Чырвонай вішні,
Бы ў лузе
Кветак назбіраў
І сплёў вянок
На косах пышных.

Усмешка вочы
Неўпрыкмет
І тварык белы
Асвятляла,
Вясны-дзяўчыны
Той партрэт
Само натхненне малявала.

## НА СВАЁЙ МОВЕ

Гаворыць
І ветрык ласкавы,
Гавораць
І птушкі,
І травы,
І ўсе
На сваёй толькі мове
Ў зялёнай
Шумлівай дуброве.

## МЕЛОДЫЯ

Прападае ў музыцы
Мелодыя,
Без мелодыі
Няма душы,
Без яе не песня,
А пародыя,
Што не ўцешыць,
Горка насмяшыць.

А раней
Даўнейшая, чароўная,
Любая
Мелодыя была.
І адкуль, адкуль жа
Бездухоўная
На паверхню
Траскатня ўсплыла?!

Траскатня і шум...
А за ваколіцай
Чую, як пяе
Вясной зямля,
Хай душа
Пяшчотаю натоліцца,
Меладычнай
Песняй салаўя!

## БЕРАЗНЯК

— Беразняк вясновы,
Як ты пабяліўся,
Як ты пабяліўся,
Чысценькі зрабіўся?
— Мяне пабялілі
Ў зімні час сняжынкі,
Чысцілі чысцютка
Інеі, ільдзінкі.

— Беразняк вясновы,
Як ты вымываўся,
Як ты вымываўся,
Пышна распускаўся?
— Мяне вымывалі
Ліўні веснавыя,
Лісці распускалі
Ветрыкі лясныя.

— Беразняк вясновы,
Як ты весяліўся,
Як ты весяліўся,
З песнямі здружыўся?
— А я весяліўся
Разам з салаўямі,
Што мне напявалі
Днямі і начамі.

## МАТЫЛЁК

Вясною,
Як сонца прыгрэла
І выдаўся
Цёплы дзянёк,
Трава-мурава
Зелянела
І лётаў
Малы матылёк.
Шукаў на прылеску
Ён кветку
І вось медунічку
Спаткаў
І крылцам,
Бы ручкаю дзетка,
Яе ціха, ціха
Кранаў.
Ляцеў на прыгорку
Прылескам,
Ад яркага сонца
Нямеў,
Спыніўся
Ля весняй пралескі,
Спачыць
Адну хвілю прысеў.
А ўсё-ткі
Сваю медунічку
Зусім пакідаць
Не хацеў,
Хутчэй напрасткі
Да крынічкі,
Да кветкі сваёй
Паляцеў.

## УВАБРАЛАСЯ НОЧ СІНЯВОЙ

Увабралася ноч
Сінявой,
Толькі зоранька
Ціха мігае,
А чаромха
Шапоча ліствой,
Нібы мне,
Маладой,
Спачувае...

Нібы хоча
Спытацца
Ў мяне
Пра мае
Запаветныя мары,
Пра таго,
Хто мне дорыць
У сне
Словы ласкі,
Цудоўныя чары.

Я гляджу
На яго
Хоць у сне,
Як праводзіць мяне
Ён да дому,
І не знаю,
Ці прыйдзецца мне
Стрэцца
З другам
Сваім невядомым.

Увабралася ноч
Сінявой,
Толькі зоранька
Ціха ірдзее,
А чаромха
Шапоча ліствой —
Пачакай,
Не губляй ты
Надзеі.

## ЛЮБОЎ
## І НАТХНЕННЕ

Назваць цябе
Кветкаю ма́я,
Ды кветка цвіце,
Адцвітае.

Назваць цябе
Зоркай, што ззяе,
Ды зорка гарыць
І згарае,

Назваць цябе
Сонейкам ясным,
Ды сонейка свеціць
І гасне.

Цябе назаву я
Крыніцай,
Што вечна струменіць,
Бруіцца,
Што людзям дае
Суцяшэнне,
А мне і любоў
І натхненне.

## ПАМЯЦЬ КАХАННЯ

У кахання памяць
Некароткая,
Вернасці зайздросціць
Лебядзінай,
І тужліва-горкая,
Салодкая,
Светлыя пачуцці
Нарадзіла.

У кахання памяць
Незабыўная,
Не губляецца яна
З гадамі,
Бо два сэрцы зліты
Непарыўныя,
Як рака
З крутымі берагамі.

## Я ПАСТУКАЎ...

Я пастукаў
У акно,
Ты спала,
Промень сонца
Ззяў у валасах,
Мне цябе
Шкада трывожыць стала,
Я пайшоў,
А ты
Ў маіх вачах...

І, здаецца,
Ты цяпер са мною,
Не парушу
Твой таемны сон,
Ціха з воч
Скаціўся ён
Слязою,
Спакойна
Хай табе
Сніцца ён.

## СУПАКОІЎ

*Быль*

Каханак з каханай
На лодцы плылі,
Грабці, правіць лодкай
Яны не маглі.
І лодку панесла
Ўніз па цячэнню.
Каханка не мела болей
Цярпення,
Сказала:
— Ой, любы,
Харошы мой, мілы,
Мне зараз, напэўна,
Тут будзе магіла,
Я плаваць не ўмею,
Пайду я на дно.
— Таксама не ўмею,
Патонем, відно,
Цябе не пакіну
Адну я ў бядзе
І нават на дне гэтай рэчкі,
Нідзе.

Каханак каханку сваю
Супакоіў,
І выплылі,
Жыць засталіся абое.

## А НАВОШТА?..

А навошта вочы?
Каб яны глядзелі.
А навошта слёзы?
Каб яны блішчэлі.
А навошта рукі?
Каб яны рабілі.
А навошта сэрцы?
Каб яны любілі.

## ВЫРАЙ

Вырай,
Мой вырай,
Птах мой,
Жураўка,
Ты адлятаеш...
Жаўтлявая траўка
Ростані
Біці паклон табе мусіць
І ад азёр,
І ад рэк Беларусі.

Птах пералётны,
Птах,
Журавочак,
Ты на чужыне
Кожны куточак
Самы маленькі
Прыпомніш радзімы,
Дзе вы з сяброўкаю
Золак будзілі.

Там вы ляталі
Ля балацінак,
Баль свой спраўлялі
Між чарацінак.
Лотаць жаўцела,
А белы гарлачык
Песціўся ў промнях
Вясновых,
Гарачых.

Вырай, мой вырай,
Птах мой, жураўка,

З песняю шчырай
Сонечным ранкам
Зноўку вяртаешся
Ў край свой, старонку,
Будзіш прасторы
Курлыканнем звонкім.

## КВЕТКІ

На падаконніку маім
У снежні кветкі расцвілі,
Я паглядзеў на іх: яны
Былі часцінкаю зямлі.

Хоць і мароз скаваў зямлю,
А ў кветках тут было жыццё,
І ў міг той светлы ажыло
Ў грудзях юнацтва пачуццё.

І я падумаў: «Сапраўды,
Вось гэтай снежнаю зімой
Як бы ўваскрэсла маладосць,
Прыйшла пабачыцца са мной».

## ПОМНЮ ПРА ЦЯБЕ

Дзе б ні хадзіў,
Дзе б ні блукаў,
Помню пра цябе,
Дзе б ні ехаў,
Дзе б ні плыў,
Помню пра цябе.

Раніцай і ўдзень
Помню пра цябе,
Замаруся,
Засынаю,
Помню пра цябе.
Як засну,
І ў сне
Бачу я цябе.

## БАЦЬКОЎСКІ ЗАПАВЕТ

Перш чым цябе
Заўважаць,
Заўважай іншых.

Перш чым цябе
Ацэняць,
Ацані іншых.

Перш чым цябе
Палюбяць,
Палюбі іншых.

Перш чым цябе
Праслвяць,
Праслаўляй іншых.

Тады і цябе
Заўважаць,
Тады і цябе
Ацэняць,
Тады і цябе
Палюбяць,
Тады і цябе
Праслвяць.

## КАЛІ СПІЦЬ ПАЭТ?

Калі спіць паэт —
Раніцай, удзень,
Вечарам ці ноччу?

Раніцай узыходзіць сонца,
Весела спяваюць птушкі.
Які тут сон?

Удзень дзумкаюць пчолы,
Лятаюць наўкол матылькі.
Які тут сон?

Вечарам прыемна пахнуць
Травы і кветкі,
Ружавеюць на небе,
Зіхцяць золатам аблокі.
Які тут сон?

Ноччу ўсё тое, што бачыў
Раніцай, днём і вечарам,
Паэт пераплаўляе ў вершы.
Які тут сон?

Калі спіць паэт?
Калі засынае навечна.

## МУЗЫКА

Музыка працаваў
Некалькі доўгіх год,
Тварыў днямі
І начамі,
Затым бракаваў
Напісанае
І пачынаў усё
Спачатку.

Музыка не змог знайсці
Таго звонкага,
Празрыстага струменю,
Які б зайграў, засвяціўся
Ўсімі колерамі
Вясёлкі.

Майстра быў
Вельмі незадаволены сабой
І, ўсхваляваны,
Сканаў за раялем.

Калі каля труны
Нябожчыка
Сябры сыгралі
Апошні варыянт
Яго твору,
Усе сказалі:
— Шэдэўр мастацтва.

Творца не пачуў
Гэтых слоў.
І калі ізноў
Зайгралі

Яго твор,
На апошнім,
Заключным акордзе,
Ў музыкі, здаецца,
Здрыгануліся вусны,
І ён як быццам ціха,
Спакойна ўсміхнуўся.

## ПРЫГАЖОСЦЬ ЗАСТАНЕЦЦА ЛЮДЗЯМ

Новы дом,
Жыхары засялілі летам
Дзевяціпавярховы,
Са светлымі
Прасторнымі
Кватэрамі.

Вакол дома
Пустэча...
Аніводнага кусціка,
Аніводнага дрэўца.

Надышла восень.
І адзін дзядуля
Ўзяў у рукі рыдлёўку
І пачаў капаць ямы.

Грунт быў цвёрды,
Нібыта граніт,
У зямлі пападаліся
Цэгла, цэмент.

Дзядуля ломам,
З усяе сілы,
Аж бліскаў агонь,
Трушчыў цвёрдую,
З камянямі, зямлю
І выкідваў яе з ямы
Рыдлёўкай.

Суседзі па кватэры
З цікаўнасцю пыталі
Ў старога:

— Што ты задумаў рабіць?
— Буду садзіць палісаднік-садок,—
Адказваў дзядуля.
— Ну і дзівак,
Здзяцінеў,—
Смяяліся з яго.

Старому было крыўдна,
Але ён маўчаў
І працаваў
Да сёмага поту.

Пасадзіў вакол сваёй
Першапавярховай кватэры
Ладныя маладзенькія
Прыгажуні-вішні,
Добра паліваў іх —
Расціце, прыносьце радасць.

Вясной палісаднік
Быў увесь у белай квецені.
Ветрык даносіў
Пах бэзу і язміну,
Шчабяталі птушкі.
На шпакоўні
Весела высвістваў шпак.

Стары, як зачараваны,
Стаяў і любаваўся
Гэтым хараством.
— Глядзіце,— казалі плеткары
І пляткаркі,
Якія не пасадзілі
Ніводнага дрэўца,—
Гэты дзед не дзівак,
А прыватнік —

Вунь які садок
Пасадзіў!
— А хто ж вам
Перашкаджаў
Садзіць дрэвы?!.
Я хутка памру,
А прыгажосць
Застанецца людзям.

## ПРАЦАВІТЫ ЧАЛАВЕК

Жыў на свеце
Працавіты чалавек...
Ён не прасыпаў
Ночы —
Плёў лапці,
Не прасыпаў
Яснага золаку —
Ехаў на коніку
Араць поле,
Не прасыпаў
Першых ранішніх росаў —
Касіў сена.
Паспяваў у свой час
Узараць поле,
Пасеяць, вырасціць,
Сабраць увесь ураджай
Да надыходу
Дажджлівай восені.

Толькі не паспеў
Гэты чалавек
Сабраць сабе адзенне
Ў той шлях,
Адкуль не вяртаюцца.

## ПА-САПРАЎДНАМУ АЦЭНІШ

Толькі па-сапраўднаму
Ацэніш:
Цяпло
Пасля холаду,
Спатканне з каханай
Пасля разлукі,
Радасць
Пасля гора,
Чалавека
Пасля нелюдзі.

## БЯДА

Калі ты палахлівы —
Паўбяды.
Калі ты зайздросны —
Паўбяды.
Калі ты не зусім шчыры —
Паўбяды.
Калі ты ленаваты —
Паўбяды.
Калі ты глухі —
Паўбяды.
Калі ты сляпы —
Паўбяды.
Калі ты без рук —
Паўбяды.
Калі ты без ног —
Паўбяды.
Калі ты подлы —
Бяда!

## НАПАЎГОЛАСА І НА ЎВЕСЬ ГОЛАС

Ведаў я
Аднаго чалавека,
Які з непасрэдным
Начальнікам сваім
Гаварыў ціха,
Лагодна,
Напаўголаса.

Калі-нікалі
Хваліў,
Адзначаў
Старанных падначаленых
Напаўголаса.

Пра свае пралікі
І недахопы
На сходах
Мімаходзь
Мармытаў сабе пад нос
Напаўголаса.

І толькі дома
Ён грымеў,
Як гром,—
Лаяў жонку
На ўвесь голас.

## ПРАЎДА

Нельга знішчыць
Розум,
Бо ён — розум.
Нельга пагасіць
Сонца,
Бо яно —
Сонца.
Нельга перамагчы
Праўду,
Бо яна — праўда.

## ЗАКОН

Ёсць для ўсіх
Адзін закон.
Ды шкада,
Што некаторыя «законнікі»
Імкнуцца прымяніць яго
Па-свойму,
На сваю карысць
І спекулююць ім.
Яны — злачынцы.

## СЛАВА

Да славы
Рвецца той,
Хто зняслаўлены
Сваёй нікчэмнасцю.

## СЛАВУТАСЦЬ І ПАСРЭДНАСЦЬ

У славутасці
Заўважаюць
Самыя маленькія
Пагрэшнасці.
А пасрэднасці
Даруюць
Тое, што
Недаравальна.

## ДАВОЛІ РЭДКА

Калі б аднаго сілу,
Другога розум,
Трэцяга дабрыню,
Чацвёртага мудрасць,
Пятага прадбачлівасць
Злучыць разам —
Вось было б здорава!

Усе гэтыя якасці
Ёсць і ў адным чалавеку,
Але даволі рэдка.

## НЕЗВЫЧАЙНАЕ

Часам чалавек
Кудысьці імкнецца,
Шукае
Штосьці незвычайнае.
А між тым яно
Побач з ім,
Нават
У самім ім,—
Незвычайнае
Ў звычайным.

## НАРАДЖЭННЕ МЕЛОДЫІ

Не ведаю:
Чаму ў мяне
Нечакана
Нараджаецца мелодыя?
Здагадаўся...
Мяне ж
Нарадзіла
Мая пявучая маці —
Беларусь.

## Я СЛУХАЮ ЧАЙКОЎСКАГА

Я слухаю Чайкоўскага —
І лес шуміць,
Я слухаю Чайкоўскага —
І плешча мора хвалямі.

Я слухаю Чайкоўскага —
І гукі музыкі,
Як промні сонца,
Лашчаць зямлю
І ўвесь Сусвет!

## ПАЭМА,
## НАПІСАНАЯ СЯКЕРАЙ

Майстра збудаваў дом,
Прыгожы і ўтульны,
З наразнымі
Ліштвамі і аканіцамі,
З вялікімі вокнамі,
Якія так і свецяцца
Сонцам.
Ён напісаў паэму
Сякерай.

## РОСТ І ВЯЛІКАСЦЬ

Хтось сказаў на яго:
— Вялікі,—
І ён абрадваўся,
Бо меў
Вялікі рост.

А рост
І вялікасць
Зусім розныя
Паняцці.

## РОЗУМ

Розуму не купіш
І не выйграеш.
Ёсць дык ёсць,
Няма дык няма,—
Як грыбоў у лесе.
Чужым розумам
Нельга жыць.

Ды жывуць
Некаторыя,
Хоць неразумныя,
Але хітруны,
Прайдзісветы.
Няблага жывуць,
Робяць кар'еру
Ды яшчэ
Павучаюць разумных
Розуму.

## РЭЗАЛЮЦЫІ

Службовыя асобы
На заявах
Накладваюць рэзалюцыі
Дадатныя,
Звычайныя,
Неаспрэчныя,
Абавязковыя.

А я ведаю
Некаторых
Рэдактараў,
Якія пішуць
На таленавітых кнігах
Пісьменнікаў
Рэзалюцыі
Адмоўныя,
Незвычайныя,
Спрэчныя,
Неабавязковыя.

## БАБУЛЯ

Бабуля, што дажывала
Свой век,
Збіралася спакойна
Памерці,
Ды раптам успомніла,
Што курыца павінна
Неўзабаве вывесці
Куранят,
І аж спужалася:
«Ці здолею я
Паглядзець
На маленькіх
Пушыстых куранят
У апошні раз?»

## ГЕНІІ

Геніі — гэта
Знакамітыя,
Вялікія
І незвычайныя людзі.

А вось жывуць
У вёсках
Звычайныя
Простыя людзі,
Заўзятыя працаўнікі,
Сціплыя,
Непрыкметныя
Геніі дабрыні.
І такіх геніяў —
Не злічыць.

## У НЯВОЛІ

У цырку Мішку любяць,
Яго частуюць людзі
Цукеркамі,
Пернікамі,
Абаранкамі.

Мішка танцуе,
Няўклюдна
Перастаўляючы ногі.
Усе смяюцца,
А мядзведзь сумны,
Ён у няволі.

## СКУПЫ

Да яго не прыходзь
На сняданак,
Да яго не прыходзь.

Да яго не прыходзь
На абед,
Да яго не прыходзь.

Да яго не прыходзь
На вячэру,
Да яго не прыходзь.

Ён скупы,
А са скупым,
Як і з дурнем,
Да згоды-ладу
Ніколі не дойдзеш.

## ДАБРЫНЯ

Усяго многа
Нарадзіла зямля:
Вішань, сліў,
Яблык, груш,
Залатых зярнят.
Багаты ўраджай.

Толькі
Дабрыні малавата.
— Хто ж нараджае
Дабрыню?
— Дабрыня.

## ЧАРАЎНІК

Чалавека, які робіць
Незвычайнае,
Называюць
Чараўніком.

Ну які ж ён
Чараўнік?
У яго няма
Ніякіх чараў.

Ён укладвае
Ў любімую справу
Ўсю сваю душу.
І гэтым
Зачароўвае.

## МАЦІ І ДЗЕЦІ

На ўсё чалавецтва
Ёсць адна —
Адзіная маці —
Зямля,
А людзі —
Яе дзеці.

Дык навошта ж
Вузкалобыя палітыкі —
Цемрашалы
Хочуць асіраціць
Маці —
Знішчыць
Яе дзяцей?

## НЕАДОЛЬНЫ

Той народ,
Які сее дабро,
Сее мірныя зярняты
Ва ўсім свеце,
Як праўда,
Як святло,
Як розум —
Неадольны!

## ЦІ СПАДАБАЕЦЦА ПЕСНЯ?

У жаўранка
Песня гатовая,
Адвечная.
У ластаўкі
Песня гатовая,
Адвечная.
У салаўя
Песня гатовая,
Адвечная.

Паэт жа складае
Песню новую,
Дагэтуль
Невядомую.
Ён сам не знае,
Ці спадабаецца
Яна людзям,
Як меладычны звон
Жаўранка,
Як ласкавы шчэбет
Ластаўкі,
Як мілагучная трэль
Салаўя.

## РАЗМОВЫ

Размовы, размовы, размовы...
Калі б яны
Супыніліся
І дарагі час
Пайшоў на творчасць,
Тады замест
Славесных залпаў
Паліліся б добрыя песні,
З'явіліся б
Добрыя кнігі.
Сапраўдныя палотны мастацтва.

## ЗОРКІ

Зорка з неба ўпала —
Кажуць, чыёсьці
Згасла сэрца.
Мудрасць людская
Нездарма назвала
Зоркі — сэрцы,
Сэрцы — зоркі.

Гэтыя зоркі,
Як і таленты,
Рознай велічыні,
Рознага абсягу.

Многія зоркі,
Як і сэрцы,
Сапраўды
Згасаюць.
Вечна свецяцца
Толькі
Зоркі-сэрцы
Незгасальныя.

## ЛАСТАЎКА

Чаму ніколі
Не сядзе
Ластаўка на дрэва —
І не пашчабеча?
Няма ёй часу сядзець
І шчабятаць пустое.
Яна нашчабечацца
На ляту,
Збіраючы сваім дзеткам
Спажыву.

## І САЛОДКАЕ ПРЫЯДАЕЦЦА

У чым бывае смак?
Ва ўсім і ні ў чым.
Спачатку
Ўсё смачнае,
Калі ж наясіся —
Усё нясмачнае.
Таму кажуць:
І салодкае
Прыядаецца.

## ЕСЦЬ ТАКАЯ СТАРОНКА

Ёсць такая старонка
На свеце,
Там, дзе Сож яснавокі
Цячэ,
Над ёй сонца ласкавае свеціць,
А блакіт —
Сінь дзіцячых вачэй.

Тут, у гэтай
Старонцы любімай,
Як у кроплі
Празрыстай вады,
Бачны ўсе мне
Прасторы Радзімы:
І палі, і лясы, і сады.

Нарадзіўся я
Ў роднай старонцы
І спазнаў
Шчасце-долю сваю,
Кожнай траўцы,
Маленькай сасонцы
Нізка-нізка паклон аддаю.

## Я ГЛЯДЖУ НА КАЎКАЗ

Я гляджу на Каўказ,
Што паэты ўслаўлялі
У паэмах
І вершах не раз,
Ад мяне вы далёка,
Жытнёвыя хвалі,
Мне чамусьці
Самотна без вас.

Зрок мой вабяць
Бяскрайняга мора
Разлівы,
Пальмаў рослых,
Цыбатых асцё,
А ўяўляю сабе
Беларускія нівы,
Стройных белых бярозак лісцё.

Вечары тут і ночы —
Хоць выкалі вока,
Ў гушчары так
Увосень якраз,
Незнаёма усё
І нязвычна навокал,
Ты за шчырасць
Прабач мне, Каўказ.

Пра цябе не скажу я
Нічога благога,
Падабаюцца горы твае,
Толькі ціхага,
Роднага шуму ляснога
Ў гэты час,

Мне павер,
Не стае.

Не стае
Нарачанскіх пейзажаў вясёлых,
Кучаравай вярбы
Ля ракі
І гармоніка голасу,
Песень у сёлах,
Што пяюць вечарком
Землякі.

Я гляджу на Каўказ,
Што паэты ўслаўлялі,
Я гляджу ўпершыню
На Каўказ,
Ад мяне вы далёка,
Жытнёвыя хвалі,
Мне чамусьці
Самотна без вас.

## ЛЯ МАГІЛЫ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Не тое тут сонца,
Не тыя аблокі
І неба высокага сінь,
Закінуты лёсам,
Далёка, далёка,
Ляжыць, спачывае Максім.

Ён сніць
Беларусі —старонкі
Прасторы,
Бурлівыя хвалі ракі,
Красу ніў жытнёвых,
Шумлівага бору,
Радзімы сваёй васількі.

## НЕБА ПРАСТОР

А мора баяцца
Аблокі,
Не хочуць
Пазбавіцца гор,
І ў Ялце чысцюткі,
Высокі
Блакітнага неба
Прастор.

Хмурынка адна
Завітае,
І з неба як гляне
Ў глыб хваль,
І тут жа хутчэй
Уцякае,
Плыве
Ў неаглядную даль.

## НА СЦЯЖЫНЦЫ

На сцяжынцы гарыстай,
На сцяжынцы на вузкай
Ішоў хлопец фарсісты
І сустрэў беларуску.
— Скуль вы родам?
— З-пад Мінска.
— Ну а я з-пад Лагойска,—
Да пляча блізка, блізка
Прыхінуўся па-свойску.

А яна ўсмешку дорыць,
Як галубка, вуркоча,
Хлопец з ёю гаворыць,
Заглядаючы ў вочы.

Вочы, вочы такія,
Нібы крымскія зоры,
Што гарацъ, трапяткія,
Ў небе ясным над морам.

А гарыстая сцежка
Ўсё вядзе вышай, вышай,
Толькі вечар і ўсмешка,
Толькі двое і ціша.

## ПОМНІК СУМЛЕННЮ

Часіна прыйдзе —
Я чакаю —
Збяром для лому
Ўсе замкі
І помнік выплавім
Сумленню.
Няхай стаіць ён
На вякі.

## ХАЧУ ПРАЖЫЦЬ НЕДАРЭМНА

Мяне лёс
І не грэў,
І не гушкаў,
Не туліў
З ласкай ён
Да грудзей,
Я з маленства
Даверлівай птушкай
Ўсё трымаўся
Бліжэй да людзей.

Прыглядаўся
Да іхняе працы,
Сам вучыўся,
Любіў працаваць,
Навучыўся
За праўду змагацца,
Чалавека
У крыўду
Не даць.

Лёс не лёгкі мой,
Гэта нядрэнна,
Не люблю я
Цяплічных натур,
Век хачу свой
Пражыць
Недарэмна,
Сярод рокату мора
І бур.

## ГАВАРЫ РОДНАЙ МОВАЙ МАЁЙ

Гавары роднай
Мовай маёй,
Я ў ёй чэрпаю
Розум і сілу,
Маладзею адразу
Душой,
І мне ўсё
Гэтак радасна,
Міла.

Гавары роднай
Мовай маёй,
Прыгажэй
За пялёсткаў вішнёвых,
Што крыштальнай
Сваёй чысцінёй
Выпраменьвае
З ласкаю словы.

Гавары роднай
Мовай маёй,
Калі часам
Агортвае скруха,
Кожны гук,
Як жаўронка вясной,
Я да скону бы
Слухаў
І слухаў.

Гавары роднай
Мовай маёй,

Што з гадамі
Нішто не скрышыла,
І таму
Накanoвана ёй
На вякі
Неўміручасць і сіла!



# 3

Капае хто дабру магілу,
Хто зло каварнае прыгрэў,
Я на таго з рашучай сілай
Абрушу свой і смех і гнеў!



## СМЕХ

Смех,
Хто хворы,
Таго
Лечыць,
Хто здаровы —
Не скалечыць.
Ён — бадзёрасці
Зарад,
Смеху кожны,
Кожны рад!

## АПЕКУНЫ

Наглядчыкі,
Дарадчыкі,
Падказчыкі,
Указчыкі —
І ўсе апекуны...
Ды лішнія яны.

## СЕМ НЯНЕК

Многа, многа
Камітэтаў —
Ахавальнікаў
Прыроды,
Браканьераў жа
Пры гэтым
Усё болей
З кожным годам.

Тое ж самае
Згадаем,
Так яно
І павялося:
Як сем нянек
Даглядае,
То дзіця
Заўжды без носа.

## ХІМАТРАД

Раз быў дадзены нарад —
І прыехаў хіматрад,
Распачаў палоць ён лён,
Выганяў з яго драсён...

Прапалоў, прашураваў,
Пустазелле скараняў.
«Скараніў» — няма драсёну,
І няма таксама лёну.

«Нарабіла» хімія —
Лён з палетка вымела.

## ПРА САЎКУ-СІМУЛЯНТА

Ад нядзелі да нядзелі
Саўка ў ложку, у пасцелі,
Прычапілася лянота,
Не пускае на работу.

Ходзіць жонка ў задуменні —
Ў нырках Саўкавых каменні?
Як дастаць патрэбных лекаў
Падлячыцца чалавеку?

Ну а Саўку не ляжыцца,
Трэба ж неяк пахмяліцца,
Шклянкі тры як выпіў горкай
І ў падушку носам торкаў.

Дзе там Саўку ўжо да працы,
Ён жа хоча адаспацца,
Прытварыцца ж вельмі хворым —
Сімулянта гэткі нораў.

На калгасным на праўленні
З нырак вынялі каменні,
З Саўкі выгналі ляноту,
І ён ходзіць на работу.

## НЕ ДАБУДЗІЦЦА

*З народнага*

Жонка тузае Рамана,
Ды не дабудзіцца,
Любіць спаць ён
Вельмі позна,
Хоць рана лажыцца.
— Уставай, спяваюць пеўні,—
Просіць маладзіца.
— І няхай сабе спяваюць,
Калі ім
Не спіцца.

## МАЯ ЖОНКА — ВЕСЯЛУХА

Мая жонка — весялуха,
Ой, пяюха дык пяюха,
Як з пасцелі устае,
І пяе ўсё, і пяе.

Мая жонка — весялуха:
Як мне песні яе слухаць?
Гэтак хораша пяе,
Да нутра аж дастае.

Мая жонка — весялуха,
Ой, пяюха дык пяюха,
Нельга нават супыніць,
Замаўкае, калі спіць.

## ЕХАЎ ЯСЮ...

Ехаў Ясю вечарком
Да сваёй каханай.
Цераз рэчку на бяду
Мост быў паламаны.
Стой, машына.
Стой, машына,
Пачакае хай дзяўчына.

Каля самае ракі
Ясю супыніўся.
Трохі моўчкі пасядзеў —
І «вады» напіўся.
А вада была,
Вада —
Затраслася барада,
Галава кружылася,
У вачах дваілася.

Ясь з кабіны паглядзеў —
І заліўся смехам:
— Што за цуд.
Мост новы стаў,
Можна, можна ехаць.
Ой, заводзься ты,
Машына,
Я паеду да дзяўчыны.

Ехаў Ясю вечарком
Да сваёй каханай,
Устаў ранкам пад мастом,
Граззю запляскаы,
Паламаная машына,
Не даехаў да дзяўчыны.

І ўсяму віной — вада,
Тая моцная вада,
Ад якой дваілася,
Галава кружылася.

## БЛАКІТНЫЯ МАРЫ

Блакітныя мары,
Ружовыя мары —
Вадзіў «Жыгулі» я
У п'яным угары.

Я ліха, я хутка
Вадзіў «Жыгулі».
Але да чаго яны
Ўсё ж давялі?..

Хапіў першаку,
Гары гэтай тры чары,
Машыну разбіў,
Пра якую так марыў.

Бязногі, скалечаны я,
Калі ласка,
Няма «Жыгулёў»,
Ёсць двухколка-каляска.

## ПАКАХАЎ

— Няўжо мяне кахаеш,
Сеня?
— От праўда, Гэля,
Без сумнення.
— Тады цалуй мяне,
Дзівача.
— Няма дурных,—
Шчэ жонка ўбачыць.

## Я САМЫ ШЧАСЛІВЫ

— Я самы шчаслівы,
Мне жыць любата:
Я маю машыну,
Сабаку, ката́,
Яшчэ і вялізную
Добрую дачу.
— А розум?
— А розум
Нічога не значыць.

## «ПЕРАБУДОЎШЧЫК»

Перабудоўваўся? —
Выгадваў,
Ён не спяшаў,
Чакаў каманду,
І зверху
Як яму падкажуць —
«Перабудоўшчык»
Слова скажа.

## ГУЛЬТАЙ

Хоць мурашка
І малая —
Пераносіць
Груз цяжкі.
Возьмецца гультай
За працу —
Ў мазалях
Аж дзве рукі.

## БЮРАКРАТ

Паперкі ў шафе,
Паліцаў рад,
Складае папкі
Бюракрат.

Зачыніцца
Ў свой кабінет,
Людзей не бачыць,
Белы свет.

Адпіскі строчыць,
Шле і шле —
Гара паперак
На стале.

## ПРЫЛІПАЛА

Прыстасуецца
К начальству
І прыліпне,
Як той ліст,
Прыліпала
З той пароды,
З якой выйшаў
Кар'ерыст.

## ПУСТАЦВЕТ

Ён думаў,
Што ён
Пуп зямлі,
Ён думаў,
Што ён
Цэнтр Сусвету,
А людзі
Ўсё ж такі
Змаглі
Адрозніць цвет
Ад пустацвету!

## ПАДХАЛІМ

Усміхаецца
Салодка,
Ходзіць
Ціхаю паходкай,
І падлашчыцца,
Як кот,
І загляне
Проста ў рот...

Асцярожна,
Людзі, з ім,
Бо нашкодзіць
Падхалім!

## НЕ ПСУЙ ПАПЕРЫ

Гадоў за сорак
Пачынаў,
Старым,
Сівым дзядулем стаў,
Даўно мінула
Маладосць...

Паэт жа піша...
— Штосьці ёсць! —
Яму гавораць,
А ён верыць.

А што б сказаць:
— Не псуй паперы!

## ПАДМАН

Згаварылася
Групоўка,
Згаварыўся
Адзін клан:
— Браце любы,
Слухай, слухай,
Лаўрэатам будзь,
Іван.
— Лаўрэатам?
Гэта можна.
А чаму мне ім
Не быць?
— Мы табе
Ва ўсім паможам,
Што тут многа
Гаварыць.

Памагалі,
Вылучалі,
Лаўрэатам
Стаў Іван,
А ці людзі,
Людзі знялі,
Што чарговы
Быў абман?!

## ЦЁТКА-ПЛЁТКА

То не цётка —
Проста плётка,
І без плёткі
Ні на крок...
— Ці вы чулі,
Ці вы чулі?
Янка —
Зброддлівы дзядок.
Вельмі прагне
Заляцацца
Да дзяўчыны маладой.
Толк які?
Ну пашчакоча
Трохі вусны барадой.

— Вось Яўхім,
Дык той
Б'е жонку
І лупцуе,
Як казу,
Перад сном
Ды і спрасонку
Ў ход пускае ён
Лазу.

— Ходзіць чутка
Паміж намі —
Вартаўнік
Лайдак-Цімох
Ой дабра
Накраў у краме,
Ненажэра,
Каб ён здох.

— А ўдава
Ўзяла Хрысціна
Двух
Дзетдомаўскіх малых,
Нажываецца
Жанчына
І зусім
Не корміць іх.

І пайшла,
Пайшла паганіць,
Абліваць усіх
Гразёй,
Бо паклёпнічаць
І ганіць —
Розуму
Не трэба ёй.

Не згаджаюцца
З пляткаркай,
Кажуць людзі:
— Эх, мана,—
Ды не слухае
Адарка,
І плявузгае
Яна,
І любога
Так аблае,
Што не мілы
Белы свет...
Можа, з вас
Яшчэ хто знае,
Сустракаў
Такіх кабет?

## РОЗУМ НЕВЯЛІКІ

Вечныя ў каго
Пралікі,
Значыць —
Розум невялікі.

## ДЗЕ ТЫ ПОЗНА ТАК ХАДЗІЛА?

*З народнага*

— Дзе ты позна
Так хадзіла,
Маладзіца,
Дзе ты позна
Так гуляла,
Галубіца?
— Я хадзіла
На хвіліну,
На хвіліну
У чырвоныя-
Чырвоныя
Маліны.
— А дзе ты
Бадзяўся позна,
Мой старэнькі,
І да дому
Не з'яўляўся,
Дзед сівенькі?
— А хадзіў-бадзяўся,
Знаеш,
Недалёка,—
Лавіць рыбку,
Вудзіць рыбку
На затоку.
— А чаго сваю
Мне рыбку
Не даеш ты?
— Ды пазычыла
Суседка
Ўсю дарэшты.
— Ну, а дзе

Твае маліны —
Паспытаю?
— Скаштаваў
Сусед мой добры,—
Што пытаеш?!
Калі так,
Калі гэтак,
Любым часам
У маліны,
На рыбалку
Пойдзем разам.

## «ГЛУХАЯ»

*З народнага*

Муж прыходзіць
З працы:
— Есці
Як хачу я,
Дзе ты там,
Дай есці!
— Га!.. Зусім
Не чую.
— Вельмі згаладаўся,
Хоць згатуй
Яечню!
— Га!.. Глухая стала
Я зусім,
Канечне.
— Падыдзі ты,
Жонка,
Атрымаў я
Грошы.
— Дык сказаў
Адразу б,
Любы мой,
Харошы!
— Як жа ты
Пачула,
Ты ж
Зусім аглухла?
— Як пра грошы
Скажаш,
Чую
Адным вухам.

## ШТО ЗА ТЫП?

Усё ён нос
Дзярэ даверху,
Зямлі не бачыць
Прад сабой,
Узніме там
Вялікі вэрхал,
Дзе трэба ціша
І спакой.

Што ён за тып,
Адкуль узяўся,
З якога свету
К нам прыйшоў?
У нас і рос
І гадаваўся,
А ў пустазелле
Вось пайшоў.

13 Зак. 3075

## НЕ НАРАКАЙ

Не наракай
На скрыпку
І на благі
Смычок.
Калі ты дрэнна
Граеш,
Віноўны сам,
Браток.

## НЕСУНЫ

Жылі ў бацькі
Два сыны,
І абодва
Несуны.
Несуны,
Несуны,
Неслі ўсё
Ў дом яны.
Неслі ўсё,
Што пад рукой,
Завалілі
Ўвесь пакой.
Несуны,
Несуны,
Неслі ўсё
Ў дом яны.
Кілбасы
Аж цэлы склад,
Кожны весел,
Кожны рад.
Несуны,
Несуны
Неслі ўсё
Ў дом яны.
Ды злавілі
Несуноў,
Няма ў бацькі
Двух сыноў.
Несуны,
Несуны,
Пасядзяць
Хай яны!

## ТРЫМАЎ ЯЗЫК ЗА ПАЗУХАЙ

Язык каровы
І цяляці
За пазухаю
Ён трымаў,
Вахцёр
На мясакамбінаце
Пакражу
Ўсё-ткі
Затрымаў.

## «САЛІСТ»

— Каб ты ведала,
Анюта,
Мой жаніх
Саліст які!
— У тэатры
Ён працуе?
— Што ты? —
Соліць агуркі.

## У ТРАЛЕЙБУСЕ

*Расказ дзядулі*

Гляджу дзяўчыне ў вочы —
Здагадка не кране...
— Мо ты, красуня, хочаш
Сваё даць месца мне?
— А дзе сама я сяду? —
Мне лепш не гавары!
— Я сам сабе не рады,
Слабы я і стары.
— Ты час дарэмна губіш
Размоваю пустой,
Бо юным больш не будзеш,
А я ж буду старой...
І мне патрэбна сілы,
Дзядуля, берагчы,
Так што трымайся, мілы,
Трымайся і маўчы!

## ЯК ЗАПІСАЦЦА?

*З народнага*

— Я выходжу
Хутка замуж,
Любая Агатка,
Ён па прозвішчу
Праснак,
Ну, а я — Аладка...
Як у загсе
Запісацца? —
Ёсць адна
Загадка.
— Я запісвацца параю —
Праснакааладка.

## НЕШТА ШКОДА

*З народнага*

— Разышлася ты з Іванам?
— Год ці болей.
— Біў цябе ён, злосны, п'яны?
— Аніколі.
— Можа, крыўдзіў, адным словам,
Меў каханку?
— Не кажыце,— што вы, што вы,—
На Іванку.
— Дык гуляў часам у карты,
Хуліганіў?
— Не, няпраўда, і не варта
Нават ганіць.
— Ты адна жывеш ці выйшла
За другога?
— Выйшла, ведаеш, за Грышу
Канцавога.
— Мусіць, ён не п'е з сябрамі
І кахае?
— П'е, ого! Яшчэ начамі
Прападае.
— Ну, а ціхі, як цвярозы,
Пашкадуе?
— Не так скажаш, злуе, грозны,
Адлупцуе.
— З дому выгнала б паганца,
Гіцля-ўрода.
— Грышу, сорам і прызнацца:
Нешта шкода.

## ТРЫ КЛЮЧЫ

— Стаў ты,
Братка, стараваты.
— Ой, суседзе,
Памаўчы,
Ды затое
Ёсць тры хаты,
І ў мяне
Аж тры ключы:
Ключ гаражны,
Ключ кватэрны
І ад дачы
Ключ яшчэ,
Сапсаваў сабе
Ўсе нервы,
І нутро
Гарыць, пячэ.
Гэта ж можна,
Гэта ж можна —
«Жыгулі» каб
Мне набыць,
Давялося
Год, дзень кожны,
Ў магазін
Усё хадзіць.
А ты думаеш,
Што дача
Дарма так
І так гараж —
Сэрца ные,
Сэрца плача,
Дай у лапу,
Дай, падмаж?
Маладзей мяне

Малодка —
Жонка —
На дзесяткі два,
Жыць на дачы
Ёй салодка,
Не баліць ёй галава...
Кажа мне:
— Шукай запчасткі.
Тэлевізар
Модны ёсць,
А ў самое
Часта, часта
Малады на дачы
Госць.
Я пачаў ужо
Касіцца:
— Што за госці
Дзень у дзень?
А яна:
— Трэба ж радніцца,
Ой, стары,
Дурны ты пень,—
Ведай, Венік —
Мой пляменнік,
Гнась —
Стрыечны будзе брат,
А Іваньку,
А Раманьку
Хваліць сваццы,
Хваліць сват...
Добры,
Мілы мой суседзе,
А ці муж я,
Ці не муж?
Жонка
На курорты едзе,

Я ж вару
Варэнне з груш.
— Ды ты ж
Стаў такі багаты!
— Не кажы, браток,
Дарма,
Тры ключы ў мяне,
Тры хаты,
А вось шчасця
І няма.

## «ЖАНІХ»

Прыгажун
Ласкавы, лоўкі,
Чараў у яго
Для ўсіх,
Знойдзе на дзень-два
Сяброўку,
Ён не бацька,
А «жаніх».

І глядзіць,
Каб сцібрыць грошы
І нявесту
Абабраць,
Пра дзіця свайго,
Прыгожы,
І не хоча
Нават знаць.

Да другой нявесты,
Трэцяй,
Заляцацца
Едзе хват
І гуляе,
Як той вецер,
Збэсціць каб
Пабольш дзяўчат.

Не адзін
Аб'едзе горад,
Легкаверных
Каб сустрэць,
Пакідае
Ўсюды гора

І спаганеную
Чэсць.

Так і лётае
Па свеце,
І нявест
Чаруе ўсіх,
Не цікавяць яго
Дзеці,
Ён не бацька,
А «жаніх».

## ЯК МОЖНА?..

Як можна
Адрачыся ад дзіця,
Пакінуць і яго
Не ўспамінаці,
Не мець ні кроплі
Жалю пачуцця,—
Самою называцца
Імем маці?

Мядзведзіца
Свайго медзведзяня
У глухім, дрымучым лесе
Не кідае
І корміць
Цёплым малаком штодня,
Спакой яго
І сон аберагае.

Матуля і табе
Жыццё дала,
Люляла
І недасынала ночкі,
Расціла, гадавала,
Ты ж змагла
Радзіць і ўраз
Адмовіцца ад дочкі!

## ВУЧОНЫ ПЕВЕНЬ

Жыў звычайны певень-Пеця,
Разграбаў, бывала, смецце,
І курэй ён пільнаваў,
Песні раніцай спяваў.

Певень з кнігамі пазнаўся,
Кажуць, ведаў нахапаўся,
Ды ні грунту, ні асноў,
А вось так сабе — вяршкоў.

Думаў певень: «Я няўдалы».
Дзядзька ж «шышкай» быў нямалай,
Дапамог яму ў жыцці
Аж на кафедру ўзысці.

Хто з вас пеўня таго бачыў?
Ён на кафедры кудахча,
Угару ўзняў грэбень свой,
Сам — з пустою галавой.

## НЕПАТРЭБНЫ ШТАТ

Кожны трэці
Упраўляе,
Як чынуша,
Бюракрат,
А рабочых
Не хапае,
Упраўленцаў
Цэлы штат.
Не злічыць
Адных кантораў.
Нібы гнёздаў
Тых гракоў,
Тысячы ёсць
Рэвізораў,
Дармаедаў
І дзялкоў.
Міністэрствам
Некаторым
Шкоду робіць
Гэта рацць,
Рух наперад
Каб паскорыць,
Трэба смела
Скарачаць:
І паперкі,
Справаздачы,
Пасяджэнняў
Вельмі шмат,
І раздуты,
І лайдачы,
Непатрэбны,
Лішні штат!

## ГАЛКІН-ВЫСТУПАЛКІН

Быў вось
Гэткі кіраўнік,
Галкін-выступалкін,
Да трыбуны
Ён прывык,
Як дзіця
Да лялькі.

Бесталковы
Гаварун
Балбатнёй
Замучыў,
Трэснуў
Галкіна пярун —
Фельетон калючы.

Пустазвон
Уміг зляцеў,
І трыбуну
Знеслі,
Толькі зал
Не апусцеў,
Тут спявалі песні.

## МОВА БЮРАКРАТА

Мова бюракрата,
Мова адгаворак:
— Клопату багата,
Прыходзь у аўторак...
Трэба ж узгадненне,
Трэба ўдакладненне,
Трэба даць заданне
Вырашыць пытанне.

Прыйшоў у аўторак,
І казаць не варта,
Многа адгаворак
Чуў ад бюракрата:
— Мы не забываем,
Справу разглядаем,
Факты правяраем.
Факты выяўляем,
Пераправяраем,
Перавыяўляем
Неаднаразова
І абавязкова.

Час дарма праходзіць,
Справа дзесьці ходзіць,
Але на прашэнне
Не відаць рашэння.

Не ў адзін аўторак
Слоў было багата,
Мова адгаворак
Ёсць у бюракрата.

## КАСТАЛОМ СЛУЖБОВЫ

Ён пусты, пусты,
А муціць,
Ломіць, крышыць
Розум,
Паламае,
Напаскудзіць —
І не возьме
Роздум...

Дзе той роздум,
Дзе пачуцці? —
Глуздоў жа
Не мае,
Абняславіць
І атруціць,
Талент твой
Аблае.

Мае чын, пасаду мае
І свае высновы.
Хто ж такі ён?
Кожны знае —
Касталом
Службовы!

Не дае жыць
Хлебаробу,
Бюракрат
Не знае спраў,
Вылечыць
Яго хваробу —
З крэсла выкінуць
Пара!

## СЦІПЛАСЦЬ
## І ПОДЛАСЦЬ

Сціпласць
Слабасцю
Ніколі
Не была.

Подласць —
Гэта
Заўсягды
Вяршыня зла.

## АБЛАЯНЫ

Адрынуты,
Адкінуты,
Асмеяны,
Ахаяны,
Аблайкамі
Абрыдлымі
Аплёваны,
Аблаяны.

## КУМІРЫ

Куміры ёсць,
І ёсць багі,
Так з веку ў век
Вядзецца.
А хто ствярае іх?
Мы самі,
Самі мы,
Здаецца.

А хто ж багі,
Куміры хто?
Яны зусім
Не людзі.
Каб мне дажыць
Да той пары,
Калі ўжо іх
Не будзе!

## НЕ ЗАЙЗДРОШЧУ ЧЫНАМ

Не зайздрошчу
Чынам я службовым,
Што імкнуцца
Кар'еру зрабіць,
Рознай масці
Кручкам папяровым,—
Я хачу век
Сумленна пражыць...

Вужам слізкім,
Браткі, аніколі
Ў асабняк гарадскі
Я не лез,
А люблю
Неагляднае поле
І зялёны
Над рэчкаю лес.

Тут са мной
Шчабятлівыя птахі
Меладычна,
Працягла пяюць,
Калыхаюцца
Дрэвы-гмахі,
У іх веццях
Пяюшкі жывуць.

Я любуюся
Гэтым суладдзем,
Як маленькі
Хлапчынка-дзівак,
Тут шпакоўню

Сваю я прыладзіў,
У мяне
Персанальны ёсць шпак.

Персанальная ёсць
І шпачыха,
Птушкі любяць мяне
Нездарма.
А машына нашто мне,
Наліха?
Персанальнай машыны
Няма.

Я ж багаты,
Мае ўсе машыны,
І ўсе рэкі мае
І палі,
Моры, горы,
Пагоркі, раўніны,
Сын сваёй я
Любімай зямлі!

## ЗАЙЗДРОСНІК

Я іду —
За мной
Зайздроснік,
Дагнаў —
Спераду стаіць,
Засланіў дарогу
Злоснік.
Што далей, браткі,
Рабіць?

Я падумаў,
Паразважыў
І ў арла
Пазычыў крыл.
Што цяпер
Зайздроснік
Скажа?! —
Ён дагнаць
Не мае сіл.

## Я ВЕРУ Ў РОЗУМ

Ці возьмешся ты
За свой розум,
Ці возьмешся ты,
Чалавек?..
Палі і лясы
Пад пагрозай
І рэкі
Ў дваццаты наш век!

Канавы мы з рэк
Парабілі,
Спусцілі
З крыніцаў ваду,
Абшары палёў
Затапілі
На шкоду сабе,
На бяду.

Я веру душою
Ў твой розум,
Я веру ў цябе,
Чалавек,
Байкал зберажом
Ад пагрозы,
Палі і лясы,
Воды рэк!

## РЭВАЛЮЦЫІ КРОК

Раўняй
Рэвалюцыі крок,
Крок
Велічнай перабудовы!
Не з намі
Хто крочыць —
Убок,
Таго
Здзьмухне
Вецер вясновы.

Раўняй
Рэвалюцыі крок!
Нам досыць
Жыць
У спакоі
І спаць,
Хавацца ў цянёк,
Парушым
Былога
Застоі.

Раўняй
Рэвалюцыі крок!
Яна
Змые
Ўсякае смецце,
Як вод
Ачышчальны паток,
І сонейка
Праўды
Засвеціць!



## ЗМЕСТ

**Дзеружынскі А.**

Д 43 Бярозавы вецер: Лірыка і гумар/Прадм. У. Гніламёдава.— Мн.: Маст. літ., 1990.— 222 с.: іл.

ISBN 5-340-00460-0.

Деружинский А. Березовый ветер: Лирика и юмор.

Новая кніга паэта складаецца з трох раздзелаў, у якія ўвайшлі песні, вершы, а таксама гумарыстычныя і сатырычныя творы. Тут і задушэўная лірыка, і злабадзённыя грамадзянскія матывы, і гнеўны смех, які раскрывае застойныя з'явы і стэрэатыпнае мысленне на шляху рэвалюцыйнай перабудовы нашага жыцця.

Д $\frac{4702120202-096}{М 302(03)-90}$ 48—90

**ББК 84Бел7**

Литературно-художественное издание

Деружинский Аверьян Сафонович

БЕРЕЗОВЫЙ ВЕТЕР

*Лирика и юмор*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке



Літаратурна-мастацкае выданне

Дзеружынскі Авяр'ян Сафонавіч

БЯРОЗАВЫ ВЕЦЕР

*Лірыка і гумар*

Рэдактар *Р. М. Яўсееў.* Мастак *В. А. Дубінка.* Мастацкі рэдактар *А. М. Малышава.* Тэхнічны рэдактар *Т. М. Сокал.* Карэктар *Л. Т. Калюжная.*

ІБ № 3254

Здадзена ў набор 21.11.89. Падп. да друку 06.03.90. АТ 01073. Фармат $70 \times 90^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 8,19. Ум. фарб.-адб. 11,85. Ул.-выд. арк. 6,32. Тыраж 2200 экз. Зак. 3075. Цана 80 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.